ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 22 (2424) 15 чэрвеня 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

## МІРСКАМУ ЗАМКУ — 500 ГАДОЎ





Вядомы далёка за межамі Беларусі Мірскі замак -- жамчужына нацыянальнай архітэктуры -- адзначыў сёлета сваё 500-годдзе. На гэтае свята, якое адбылося ў пачатку чэрвеня, у Мір з'ехаліся госці з усёй рэспублікі.

Тэатралізаванае прадстаўленне як бы вярнула ўсіх прысутных ў сярэднявечча, дзе можна было сустрэць і сівога гусляра, і воіна ў кальчузе і латах, і коннікаў, што змагаюцца на коп'ях, і народных майстроў, якія гандлююць на плошчы горада, і скамарохаў, што весяляць народ.

Свята было арганізавана Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь і Беларускім фондам культуры.

Здымкі зроблены ў час правядзення свята ў Міры.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ.

МІНСКАЯ ЕПАРХІЯ Ў ПЕРЫЯД РЭПРЭСІЙ

# ПРАЗ ПАКУТЫ — ДЗЕЛЯ ВЕРЫ



### УСТУПНАЕ СЛОВА

У апошнія гады ў нас многа пісалася і гаварылася аб рэпрэсіях у савецкі перыяд гісторыі Беларусі. Агульнавядома, што яны закранапі самыя розныя слаі грамадства: сялянства, ваенных, інтэлігенцыю, рабочых. Вялікія страты ў перыяд рэпрэсій панесла і Праваслаўная Царква Беларусі. На жаль, да гэтага часу пытанне аб праследаванні веруючых за іншадумства застаецца мала вывучаным. Між тым, менавіта Праваслаўная Царква, як найбольш шматлікая канфесія, была ганімай у Савецкай Беларусі з асаблівай жорсткасцю. Тлумачылася гэта тым, што без знішчэння Царквы немагчыма было атрымаць ідэалагічную перамогу ў грамадстве, духоўна паняволіць беларускі народ. Апошняе ж з'яўлялася галоўнай мэтай усёй сямідзесяцігадовай дзейнасці багаборчых уладаў. У гэтым нарысе мы раскажам пра тыя ганенні, якім падвяргаліся праваслаўныя вернікі Мінскай епархіі ў даваенны і паваенны перыяды савецкай гісторыі. Храналагічна наш расказ ахоплівае перыяд часу з 1918-га па 1951 год.

### ПАЧАТАК: 1918 — 1925 ГАДЫ

Рэпрэсіі ў адносінах да Царквы Божай пачаліся на Беларусі адразу ж пасля кастрычніцкага перавароту. Тады ў Мінску ў веруючых насільна аднялі будынкі: архірэйскага падвор'я, духоўнай семінарыі, мужчынскага манастыра, епархіяльнага ўпраўлення, духоўнага вучылішча.

25 студзеня 1918 года епіскап Мінскі і Тураўскі Георгій (Ярашэўскі) звярнуўся да паствы даверанай яго папячэнню епархіі з наступным пасланнем:

"Гонение на Православную Церковь, воздвигнутое нынешними безрелигиозными правителями России, в епархии нашей достигло особой силы и развития. Здесь, вблизи фронта, где собраны самые отрицательные в религиозном отношении элементы, где существуют особые комиссары, действующие в религиозной области более резко и решительно, чем даже петроградские комиссары, поход на Церковь принял особую яркую форму обнаружения. Так, комиссары Западной области и фронта в декрете от 9 января сего года потребовали от Консистории и духовенства передачи церковных документов в комиссариат и совершения Таинства брака и крещения не по законам церковным, а на основании гражданских записей. Это было грубым вторжением во внутреннюю жизнь Церкви, посягательством на Ее свободу, ибо Церковь управляется законами Божественными, идущими от Христа и Св. Апостолов, а не постановлениями гражданской власти. Это было издевательством над тем, что нам наиболее свято и дорого... С ведома тех же комиссаров Западной области были произведены и другие насилия в нашей епархии. Так, захвачены были духовная семинария и духовное училище... По отъезде нашем в Москву на Церковный собор захвачены: наш архиерейский дом, дома кафедрального собора, консистория. Таким образом, захвачено то, что составляет достояние Минской Церкви, т.е. всего православного верующего народа Минской епархии. Эти захваты, как и другие подобные захваты, конечно, сделаны во имя народа и для народа, как объясняют захватчики. Но, возлюбленные братья! Разве вы давали согласие на эти захваты? Разве вас об этом спрашивали? Да и могли ли вы, как верные чада Церкви, давать согласие на то, чтобы ваш православный Архиерей был лишен своего помещения и не имел где голову приклонить? Чтобы священники кафедрального собора были удалены из своих квартир? Чтобы монастыри попали в руки неверующих людей?

(Працяг на 4-й стар.).

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**Пасля месячнага перапынку мы робім чарговы, 22-гі нумар "Голасу Радзімы". Але не ўпэўнены, што ён своечасова пабачыць свет. Тры папярэднія, майскія, нумары доўга праляжалі ў друкарні, бо выдавецтва "Полымя", да якога належыць "Голас Радзімы", завінавацілася Беларускаму Дому друку і не мела сродкаў, каб разлічыцца з даўгамі. Нарэшце, пасля таго, як усе рахункі былі пакрыты, справа кранулася з месца. Быў аддрукаваны 19-ты нумар "Голасу Радзімы",.. і зноў усё спынілася: цяпер ужо няма паперы. Такое становішча, відаць, будзе да канца года.**

**Але рэдакцыя не спыняе сваёй працы і спадзяецца на тое, што адолее ўсе перашкоды. Мы вельмі ўдзячныя нашым чытачам, і тутэйшым, і замежным, за тэлефонныя званкі, лісты, у якіх маральная падтрымка і просьба трымацца да апошняга, за прысланыя чэкі і перададзеныя грошы ў фонд "Голасу Радзімы".**

**Будзем трымацца разам, а мы абяцаем чытачам сваю прыхільнасць абранаму шляху Адраджэння.**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВЯРХІ ЗАКЛАПОЧАНЫ*



"Мы падышлі да парога эканамічнай бяспекі нашай рэспублікі", -- заявіў Аляксандр Лукашэнка на пашыраным сумесным пасяджэнні Кабінета міністраў і Савета бяспекі, якое адбылося 8 чэрвеня. У пасяджэнні таксама прынялі ўдзел Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслаў Грыб, старшыні абласных выканкомаў, кіраўнікі прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Прааналізаваўшы сітуацыю, Прэзідэнт зрабіў выснову: "Можна з упэўненасцю сказаць, што ўрад здолеў стварыць макраэканамічныя перадумовы стабілізацыі эканомікі". Разам з тым Прэзідэнт адзначыў, што "ў эканамічнай палітыцы па выйсцю з крызісу дапушчаны шэраг сур'ёзных пралікаў", і заклікаў усіх падумаць разам, як выйсці з той сітуацыі, якая цяпер склалася.

НА ЗДЫМКУ: у час пасяджэння.

Запазычанасць беларускіх спажыўцоў за электраэнергію, якая паступае з Расіі, дасягнула 312 мільярдаў 503 мільёны беларускіх рублёў, а таксама за электраэнергію з Літвы -- 78 мільярдаў 131 мільён рублёў.

*ПАЗІЦЫЯ БНФ*

## АПАЗІЦЫЯ НА СЕСІЮ НЕ ПРЫЙДЗЕ

Апазіцыя Беларускага народнага фронту не прыме ўдзел у нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета 14 чэрвеня. Аб гэтым заявіў на праведзенай 8 чэрвеня прэсканферэнцыі лідэр БНФ Зянон Пазьняк.

Апазіцыя, падкрэсліў ён, прытрымліваецца сваёй заявы аб тым, што пасля вядомых падзей 12 красавіка, калі ў парламенце да дэпутатаў была прыменена грубая сіла, яна не можа больш знаходзіцца ў ім. Выключэннем могуць быць толькі пасяджэнні парламента, калі будуць вырашацца лёсаносныя пытанні, звязаныя з існаваннем дзяржавы. На думку З.Пазьняка, сітуацыя з выбарамі зайшла ў юрыдычны тупік.

*ПАСЛЯ РЭФЕРЕНДУМУ*

## ЯЗЫК ЦІ МОВА

30 мая міністрам адукацыі і навукі Беларусі падпісаны загад пад нумарам 197, згодна з якім зменены пункт 5 Тыпавых правілаў прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Цяперашнім абітурыентам прапаноўваецца здаваць экзамен па выбару: беларуская мова і літаратура ці руская. Такое права з'явілася і ў тых, хто збіраецца працягваць вучобу ў сярэдне-спецыяльных навучальных установах. Выключэнне складаюць тыя, хто абраў спецыяльнасць беларуская мова і літаратура. Рашэнне прынята ў адпаведнасці з вынікамі рэферэндуму і рашэннем калегіі Міністэрства адукацыі і навукі рэспублікі.

*ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА*



Еўрапейская камісія гуманітарнай дапамогі (ECHO) накіравала медыцынскім установам Беларусі медпрэпараты на суму больш за мільён марак, прызначаныя для імунізацыі насельніцтва супраць дыфтэрыту і іншых інфекцыйных захворванняў. У першую чаргу праграмай імунізацыі насельніцтва супраць інфекцыйных захворванняў будуць ахоплены дзеці нашай рэспублікі.

НА ЗДЫМКАХ: прадстаўнік германскага Чырвонага Крыжа Пітэр Клауз ЭНКЕ перадае груз гуманітарнай дапамогі галоўнаму ўрачу Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Уладзіславу ЖУКОЎСКАМУ.

*ДАЎГІ НАШЫ*

## ЗАВІНАВАЦІЛІСЯ РАСІІ

Агульны доўг Беларусі за расійскі газ, паводле звестак на 1 чэрвеня, складае 3 трыльёны 360 мільярдаў 222 мільёны беларускіх рублёў. Доўг за мазут -- 262 мільярды 872 мільёны беларускіх рублёў.

*ЗАМЕЖНЫЯ ПРАДПРЫЕМСТВЫ*

## КРОПЛЯ Ў МОРЫ

Па стану на 1 красавіка 1995 года ў Беларусі зарэгістравана 1 559 сумесных і 607 замежных прадпрыемстваў, створаных замежнымі фірмамі.

Удзельная вага прадукцыі, выпушчанай гэтымі прадпрыемствамі ў студзені--сакавіку 1995 года, склала 1,9 працэнта ў агульным аб'ёме прамысловай прадукцыі. Агульная колькасць працуючых на гэтых прадпрыемствах -- 22,2 тысячы чалавек.

*СІМВОЛІКА*

## ШЫЮЦЬ ФЛАГІ

На Гродзенскім вытворчым аб'яднанні "Сузор'е" наладжаны выпуск новых дзяржаўных флагаў.

Заказы аб'яднанне атрымлівае ад сельскіх, раённых і гарадскіх Саветаў Гродзеншчыны. Для выпуску флагаў задзейнічаны вытворчы цэх і ўчастак аўтаматычнай мастацкай вышыўкі. Дарэчы, для пашыву чырвона-зялёных флагаў у Гродне выкарыстоўваюць "плашчоўку" замежнай вытворчасці.

*РЫНКАВАЯ ЭКАНОМІКА*

## НА КАГО ПРАЦУЕ "БЕЛАРУСКАЛІЙ"

Ва ўмовах, калі многія беларускія прадпрыемствы працуюць на склад, прадукцыя вытворчага аб'яднання "Беларускалій" павялічвае збыт.

Паводле звестак, за чатыры месяцы гэтага года аб'ём рэалізацыі калійных угнаенняў узрос на 23,9 працэнта (праўда, за кошт павелічэння экспарту). Разам з тым унутраны рынак збыту скарачаецца: за ўказаны тэрмін сельская гаспадарка рэспублікі спажыла ўгнаенняў на 28 працэнтаў менш. Эканамісты прагназуюць, што ўнутраны рынак будзе скарачацца яшчэ доўгі час з-за адсутнасці фінансаў у спажыўцоў-аграрыяў.

*ПАМЯЦЬ*

## ПОШУКАВЫЯ КАМАНДЫ

У адпаведнасці з указам Прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі, у рэспубліцы пачалі работу спецыялізаваныя пошукавыя воінскія падраздзяленні.

У Круглянскім раёне Магілёўскай вобласці на працягу толькі некалькіх дзён салдатамі і афіцэрамі падраздзяленняў былі выяўлены не пахаваныя з часоў вайны астанкі больш дзесяці ваеннаслужачых 257-й Смаленскай стралковай дывізіі. Знойдзены асабістыя рэчы, дакументы, узнагароды воінаў.

*КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА*

## ДЫВЕРСІЯ НА РАДЗІМЕ ПРЭЗІДЭНТА

У мінулую суботу, 3 чэрвеня, у пад'ездзе трохпавярховага дома па вуліцы Фабрычнай у Шклове была знойдзена процітанкавая міна.

Тэрмінова на месца здарэння выехалі амаль усе наяўныя сілы шклоўскай міліцыі і "хуткая дапамога". Жыхары дома былі эвакуіраваны, а сам ён ачэплены. Некалькі гадзін чакалі прыезду сапёраў з Магілёва. За гэты час вакол злашчаснага дома сабралася амаль паўгорада цікаўных шклаўчан. Сапёры, якія прыехалі на месца здарэння праз некалькі гадзін, зайшлі ў пад'езд і выявілі, што міна, нягледзячы на падазроны выгляд і наяўнасць праводкі, аказалася без "начынкі". Зазначым, што родны дом Аляксандра Лукашэнкі знаходзіцца на другім канцы горада, так што аб матывах здарэння застаецца толькі здагадвацца.

*ЗЛОМКІ*

## ГРОДЗЕНСКІЯ БРОНЕКАМІЗЭЛЬКІ

Усяго адзін заказ на выпуск 10 тысяч бронекамізэлек для войскаў Паўночнаатлантычнага блока НАТО выканалі на гродзенскім ВА "Сузор'е".

На жаль, якасць гродзенскай прадукцыі не задаволіла заказчыкаў, таму выгадны кантракт на далейшыя партыі паміж камандаваннем НАТО і кіраўніцтвам аб'яднання не быў падпісаны.

*ДЛЯ СЫТЫХ*

## КУЛЬТУРНА-ЗАБАЎЛЯЛЬНЫ ЦЭНТР

У магілёўскіх "новых беларусаў" хутка з'явіцца "прытулак". Гаворка ідзе пра будаўніцтва культурна-забаўляльнага цэнтра з кегельбанам, більярднай, рэстаранам, гатэлем, казіно, саунай... Словам, сервіс абяцае быць на ўзроўні. Усё гэта мяркуецца размясціць на тэрыторыі Пячэрскага лесапарку, там, дзе пітомнік з маладымі дрэўцамі, якім, калі верыць праектам, высечка не пагражае -- для іх знойдуць іншае месца.

*АКЦЫЯ ПРЫМІРЭННЯ*



Прадстаўнікі евангелісцка-лютэранскай абшчыны з нямецкага горада Элерау прыехалі ў Гомель з місіяй прымірэння, з просьбай аб дараванні грахоў, што ўчынілі тут, на беларускай зямлі, іх бацькі ў гады другой сусветнай вайны.

НА ЗДЫМКУ: у рамках акцыі быў устаноўлены надпіс і ўскладзены вянок на месцы пахавання ваеннапалонных нямецкіх ваеннаслужачых, астанкі якіх былі знойдзены і перазахаваны ў Гомельскім парку.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У ВІЦЕБСКУ прайшлі Дні Латвіі. Ініцыятарам іх, як і летась, быў віцэ-консул Латвіі ў Віцебску Арманд Краузэ. На адкрыцці Дзён былі прысутныя паслы Беларусі ў Латвіі Валянцін Вялічка і Латвіі ў Беларусі Яніс Лоўніекс. У адрозненне ад Дзён Латвіі 1994 года ў сёлетніх, акрамя дзеячаў культуры, творчай інтэлігенцыі, мастацкіх калектываў, прынялі актыўны ўдзел прадстаўнікі дзелавых колаў.

ПА СЛОВАХ старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі С.Багданкевіча, у чэрвені ён мае намер пачаць планавае зніжэнне курса беларускага рубля. Галоўны банкір краіны абяцае, што падзенне "зайца" будзе нязначным -- усяго 3-5 працэнтаў у месяц.

ПРАГРАМАЙ прыватызацыі і раздзяржаўлення ў 1994 годзе прадугледжвалася прыватызаваць 65 прадпрыемстваў і арганізацый будаўнічага комплексу. Фактычна прыватызавана толькі 17 прадпрыемстваў.

НА ТРЭЦІМ энергаблоку Чарнобыльскай АЭС адбылася ўцечка радыеактыўнай вады.

УПРАЎЛЕННЕ грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі адкінула ўсякія абвінавачанні ў "недэмакратычным характары" праведзеных выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Усім 2 300 кандыдатам у дэпутаты былі прадастаўлены роўныя магчымасці "выказацца на сваіх праграмах у мясцовых сродках масавай інфармацыі".

УКАЗАМ Прэзідэнта Беларусі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча Георгій Таразевіч вызвалены ад сваіх абавязкаў у сувязі з пераходам на іншую работу.

ПАВЕЛ КАЗЛОЎСКІ, былы міністр абароны Беларусі, адмовіўся ад іску супраць Прэзідэнта А.Лукашэнкі і папрасіў спыніць судовую справу. Сваё рашэнне П.Казлоўскі растлумачыў клопатам пра аўтарытэт Прэзідэнта. "Антыпрэзідэнцкім сілам я не дам падстаў для актывізацыі", -- заявіў былы працаўнік А.Лукашэнкі, які ў свой час абвінавачаў П.Казлоўскага ў незаконных дзеяннях.

ПАДАЎ рапарт аб адстаўцы міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал-палкоўнік А.Костэнка. Прэзідэнт А.Лукашэнка даручыў выконваць абавязкі міністра абароны начальніку Галоўнага штаба Узброеных Сіл Беларусі генерал--лейтэнанту Л.Мальцаву. Прычына адстаўкі А.Костэнкі -- карупцыя ў арміі, парушэнні заканадаўства пры правядзенні канверсійнай і камерцыйнай дзейнасці ў ваенным ведамстве.

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# У ПАЛОНЕ ГІСТАРЫЧНЫХ МІФАЎ

**Уладзіміра АРЛОВА пастаянным чытачам нашай газеты, спадзяюся, прадстаўляць асабліва не трэба: той, хто шчыра цікавіцца айчыннай культурай, безумоўна, ведае і паважае гэтага пісьменніка, аўтара шматлікіх твораў, прысвечаных падзеям беларускай гісторыі. У кнігах Уладзіміра Арлова спалучаецца цікавы, інтрыгуючы сюжэт, што вельмі вабіць чытача, і нетрадыцыйнае, "няшкольнае" выкладанне гістарычных падзей. Калі ж улічыць, што тое, аб чым піша Арлоў, не "высмоктваецца з пальца", а грунтуецца на сапраўдных, але малавядомых дакументах і фактах, то робіцца зразумелай папулярнасць яго кніг у моладзі -- той, канешне, якая яшчэ канчаткова не адвучылася чытаць і думаць. А думаць сёння нам усім не пашкодзіла б -- і маладым, і старым, бо гісторыя шмат чаму вучыць.**

-- **Спадар Арлоў, калі шчыра, вы вельмі засмучаны станам спраў у нашай дзяржаве сёння?**

-- А каго ён можа ўсцешыць?

-- **Чаму ж? Ёсць людзі, якія лічаць, што ўсё ідзе нармальна, прынамсі, заканамерна. І таму глядзяць на ўсё з аптымізмам.**

-- Ведаеце, існуе формула так званага гістарычнага аптымізму. Паводле яе ўсё будзе добра,.. толькі мы да гэтага не дажывем.

-- **Сапраўды, вельмі аптымістычная формула... Але ж няхай хоць калі-небудзь усё будзе добра. Дарэчы, што гаворыць пра гэта гісторыя? Чаму вучыць?**

-- Для мяне наша айчынная беларуская гісторыя з'яўляецца прыкладам таго, што гісторыя, на жаль, нікога нічому не вучыць.

-- **А можа, так і павінна быць?**

-- Ва ўсялякім разе ў нас на Беларусі так і атрымліваецца. Гісторыя не вучыць, на жаль, не толькі людзей паспалітых, як калісьці казалі, але і людзей дзяржаўных. Гэта тым больш сумна ўсведамляць, што цяпер гісторыя дала нам шанц, каб Беларусь зноў стала незалежнай дзяржавай, і не выкарыстаць яго проста злачынна. Мне здаецца, што такая пагроза над нашай незалежнасцю вельмі рэальная.

-- **Але, можа, так адбываецца таму, што гэта не гісторыя дала нам шанц, а выпадковасць, збег абставін?**

-- Выпадковасць -- усё роўна вынік некалькіх заканамернасцяў. Наогул, назваць выпадковым развал апошняй імперыі -- Савецкага Саюза, мабыць, будзе неправамерна: усе імперыі былі асуджаны на свой скон, нам жа выпала горкая доля жыць у найбольш трывалай з іх. Нам -- я маю на ўвазе жыхароў Беларусі. Спачатку ў Расійскай імперыі, пасля -- у Савецкім Саюзе, які, па сутнасці, быў спадкаемцам Расійскай імперыі. Я глыбока перакананы, што сцвярджэнне, нібыта Расія не мела калоній, -- гэта хітры палітычны трук. Проста ў адрозненне, скажам, ад Брытанскай імперыі яна была імперыяй кантынентальнай, калі калоніі знаходзіліся побач з метраполіяй, мелі з ёй агульную мяжу. Такая асаблівасць давала магчымасць прыхаваць эксплуатацыю, навязаць суседнім народам, асабліва, калі яны былі адносна блізкія па культуры, сваю ўласную гісторыю, свой уласны погляд, сваіх, урэшце, герояў. І вось у выніку мы маем імя Суворава, увекавечанае ў нас у дзесятках назваў вуліц і калгасаў, маем помнікі яму, музей. Прыклад хрэстаматыйны, але красамоўны. Яго трэба прыводзіць зноў і зноў, да таго часу, пакуль гэтае імя не будзе пазбаўлена гераічнага арэолу, таму што для нас, беларусаў, Сувораў -- камандзір карных войскаў, якія ажыццяўлялі захоп беларускіх земляў падчас падзелу Рэчы Паспалітай, а потым душылі паўстанне Касцюшкі.

-- **Калі імперыі існавалі заўсёды, значыць, заўсёды ў людзей існавала нейкая цяга да іх. Гэтая цяга на Беларусі, здаецца, праяўляецца і цяпер (зразумела, не сваю імперыю ствараць, а далучыцца да ўжо існуючай). Ці была яна ўласцівая і для нашых продкаў?**

-- Трэба пачаць з таго, што мы, як і раней, жывем у палоне гістарычных міфаў. Адзін з іх -- пра існаванне нейкай магутнай дзяржавы пад назвай Кіеўская Русь. Як ужо даказана (не мной, зразумела, а гісторыкамі з навуковымі званнямі, я -- найперш літаратар, хоць і маю дыплом гісторыка), у летапісах назвы Кіеўская Русь вы не знойдзеце. Яна з'яўляецца прыдумкай дваранскіх расійскіх гісторыкаў.

Сапраўды, існавала ўсходнеславянская дзяржава з цэнтрам у Кіеве, але казаць, што яна абдымала, як нас цяпер хочуць пераканаць, і цяперашнія ўкраінскія абшары, і беларускія, і расійскія, было б велізарнай памылкай. Для тых, хто прывык больш верыць класікам марксізму-ленінізму, скажу, што менавіта гэтыя класікі называлі Кіеўскую дзяржаву "лоскутной империей". Залежнасць ад Кіева многіх усходнеславянскіх земляў была вельмі слабай і абмяжоўвалася часам амаль толькі зборам даніны. Што тычыцца беларускіх земляў, можна казаць, што вытокі нашай дзяржаўнасці якраз сягаюць у той час, калі нараджалася і дзяржаўнасць украінская, толькі там цэнтрам быў Кіеў, а ў нас -- Полацк, дзе каля 980-га года ўладарыў князь Рагвалод, дарэчы, першая гістарычная асоба, вядомая з летапісаў. Полацкае княства -- наша першая дзяржава, і калі паглядзець на такую прыкмету дзяржавы, як тэрыторыя, то ўбачым, што ў часы полацкага князя Усяслава Чарадзея, аднаго з герояў "Слова пра паход Ігаравы", Полацкае княства абдымала большую частку тэрыторыі цяперашняй Беларусі.

-- **Такім чынам, і Полацкае княства імкнулася да таго, каб некага да сябе далучыць...**

-- Безумоўна.

-- **Але ж дзе праходзіць тая мяжа, за якой аб'яднанне розных народаў і тэрыторый з прагрэсіўнай з'явы пераўтвараецца ў рэакцыйную? Які тут можа быць крытэрый?**

-- Полацк быў тым цэнтрам, вакол якога аб'ядноўваліся плямёны, блізкія па мове, па жыццёвым укладзе, па нейкіх эканамічных паказчыках. Аб'ядноўваліся землі, злучаныя галоўнымі на той час воднымі шляхамі. Найперш, гэта былі землі крывічоў, таму мы нярэдка называем Полацкае княства крывіцкай дзяржавай. Далучылася да Полацка частка дрыгавічоў і радзімічаў. Ад Полацка былі залежныя землі ўніз па Дзвіне да самага вусця, дзе цяпер стаіць Рыга.

-- **Для ўсіх пералічаных земляў было выгадна аб'яднацца з Полацкам. Ці не знаходзіцца сёння ўся Беларусь у стане тых плямёнаў, для якіх, каб выжыць і развівацца далей, неабходна чыясьці моцная падтрымка? Дарэчы, з Расіяй Беларусь таксама цесна звязана і мовай, і культурай, і эканомікай, і транспартнымі шляхамі.**

-- Ёсць такое паняцце -- гістарычная мэтазгоднасць. Як зусім не выпадкова вакол Полацка аб'ядноўваліся нашы старажытныя землі ў X--XI стагоддзях, так былі свае важкія прычыны і на тое, што Полацкае княства потым саступіла сваю гістарычную ролю аб'яднальніка беларускіх земляў Вялікаму Княству Літоўскаму, якое якраз узнікла, як цяпер ужо даказана гісторыкамі, не дзе-небудзь там, на этнічных літоўскіх землях, а менавіта на тэрыторыі сучаснай Беларусі і першай сталіцай якога быў (што нарэшце запісана і ў школьных падручніках) Наваградак. Ядром Вялікага Княства Літоўскага заўсёды былі беларускія землі, і дзяржаўнае жыццё адбывалася ў беларускіх нацыянальных формах: старабеларуская мова мела статус дзяржаўнай, войска складвалася недзе на 9/10 са славянаў, а не з продкаў сучасных літоўцаў. Нагадаю, што ўзнікла гэтае княства ў час, калі з захаду радзіме нашых продкаў пагражалі крыжакі, а з усходу качавыя плямёны -- найперш татара-мангольскія... Але, я так разумею, вы хочаце скіраваць мяне бліжэй да сучаснасці...

Напэўна, тут мы непазбежна ўзгадаем адзін сумны сёлетні юбілей -- 200-годдзе трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, у выніку якога скончыла сваё гістарычнае існаванне дзяржава пад назваю Рэч Паспалітая -- федэрацыя Польскага каралеўства і Вялікага Княства Літоўскага. Пасля гэтага беларускія землі на 200 гадоў трапілі ў залежнасць ад усходняга суседа: яны былі інкарпараваныя, а калі перакласці гэты навуковы тэрмін на больш зразумелую мову -- акупаваныя расійскімі войскамі. Мне здаецца, у гісторыкаў на гэты конт сумненняў ужо не засталося.

Ніякіх, так сказаць, просьбаў на інкарпарацыю ад насельніцтва не паступала. Ішла гістарычная гульня -- Кацярына II выкарыстоўвала супярэчнасці магнацкіх груповак, дзейнічала, прыкрываючыся лозунгам абароны правоў праваслаўных ці ўвогуле -- некатолікаў, так званых дысідэнтаў у Рэчы Паспалітай. Пад гэтай маркай сюды былі ўведзены войскі, і доўгі час нас змушалі лічыць і называць усё гэта ўз'яднаннем, выкананнем шматвяковых дум і памкненняў беларускага народа.

-- **Як, на ваш погляд, была ці не ў аб'яднанні з Расіяй дзвесце год назад гэтая самая гістарычная мэтазгоднасць?**

-- Дазвольце адказаць на гэтае пытанне больш падрабязна.

Рэч Паспалітая, як я ўжо казаў, была федэратыўнай дзяржавай. Вялікае Княства Літоўскае ў яе складзе (калі такая аналогія магчымая) мела суверэнітэту непараўнальна больш, чым, скажам, БССР у складзе СССР. Княства захоўвала свае ўласныя законы, сваю канстытуцыю, якая называлася Статутам Вялікага Княства Літоўскага, сваю фінансавую сістэму, уласнае войска, мытную службу, увесь свой дзяржаўны апарат. Прадстаўнікі Польшчы не маглі атрымліваць дзяржаўныя пасады, набываць тут зямлю. Дзяржаву нашых продкаў можна з пэўнымі агаворкамі назваць шляхецкай рэспублікай, бо манарх -- выбіраўся, а галоўная палітычная роля належала сойму, на якім, уласна, і адбываліся выбары манарха, зацвярджаліся законы etc. Шляхты ў Вялікім Княстве ў адносінах да ўсяго жыхарства было значна болей, чым у іншых дзяржавах Еўропы. На пачатку XIX стагоддзя 1 шляхціц прыпадаў на 6--7 сялянаў. Не будзем, вядома, ідэалізаваць шляхецкую дэмакратыю.

Але гэта было саслоўе свабоднае, у адрозненне, скажам, ад расійскага дваранства, якому, як вядома, палілі бароды, якое высылалі, якое не мела правоў у кіраванні дзяржавай.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

---

**БЕЛАРУС Васіль КРЫЎША ШУКАЕ СЫНА**

# ВІНШУЙЦЕ ЖЫВЫХ!

З БЕЛАРУСАМ Пітэрам Хюле, які жыве ў Гамбургу, мы пазнаёміліся выпадкова. Прачытаўшы ў газетах пра нямецкае таварыства "Дапамога ў бядзе", члены якога збіраюць грошы і лекі для Беларусі, ён пазваніў па надрукаванаму нумару тэлефона. Даведаўшыся пра тое, што якраз у гэты час непадалёку ад Гамбурга гасцююць яго суайчыннікі, ён прыехаў да нас. І вось мы сядзім ва ўтульнай гасцінай і слухаем, як пажылы чалавек, успамінаючы мову, якой не карыстаўся амаль ужо паўстагоддзя, распавядае пра сваё жыццё.

Нарадзіўся Васіль Рыгоравіч Крыўша семдзесят пяць гадоў таму ў невялікай вёсцы Сенькавічы, што месціцца непадалёку ад Івацэвічаў. Жылі вельмі цяжка, бацьку свайго ён ніколі не бачыў, бо забілі яго падчас першай сусветнай вайны яшчэ да нараджэння сына. Маці засталася цяжарнай, з трыма малымі дзецьмі. Калі б не сваякі, якія дапамагалі хто чым мог, загінулі б яны ўсе ў той цяжкі час. Сам Васіль пайшоў працаваць у шэсць гадоў, і з гэтага ўзросту сам забяспечваў сябе ўсім неабходным. Працаваць давялося шмат і паўсюль, аднак перад самай вайной апынуўся ён у родных Сенькавічах, адкуль у 1942 годзе яго і вывезлі ў Германію. "Узялі за глотку: або едзь, або расстраляем, -- успамінае Васіль Рыгоравіч. -- Тады расстрэльвалі многіх, хто адмаўляўся ехаць. Немцы не цырымоніліся"...

Што такое нямецкі палон, Васіль Крыўша адчуў у поўнай меры. Бясконцая цяжкая праца, хваробы, лагер, пекла жудаснай бамбардзіроўкі Гамбурга -- усё ўбачыў на свае вочы, адчуў на ўласнай шкуры. Да снежня 1943 года атрымліваў весткі з радзімы, але ж весткі гэтыя былі надта жахлівыя. Так, напісалі яму чужыя людзі, што ў яго краях быў вялікі бой немцаў з партызанамі, падчас якога загінулі яго сястра і маці. Брат апынуўся ў германскім палоне, уцёк, пайшоў пешшу ад Кёнігсберга на Брэст-Літоўск, за 60 кіламетраў ад дому яго схапілі, збілі да паўсмерці і прывезлі назад у лагер. Адтуль і атрымаў Васіль апошні ліст, дзе брат напісаў, што хутчэй памрэ, чым паддасца немцам. Напэўна, не паддаўся, бо вестак больш не было...

Доўгі час не верылася Васілю, што не засталося ў жывых нікога з родных яму людзей. Пісаў лісты на імя маці, сястры, брата, але адказаў не было. Тады паслаў запыт на адрас сельсавета і зноў нічога не атрымаў. Пісаў яшчэ і яшчэ, але ж, відаць, у тыя часы на лісты з-за мяжы, а тым больш з Заходняй Германіі адказваць не спяшаліся. У канцы вайны Васіль Крыўша зразумеў, што, відаць, застаўся ён на белым свеце адзін. І толькі многа пазней выпадкова даведаўся, што тут, на радзіме, ужо пасля яго ад'езду ў дзяўчыны, з якой жылі разам некалькі апошніх гадоў, нарадзіўся сын. Па іроніі лёсу Уладзімір Васільевіч -- а менавіта так назвала яго маці, Кацярына, -- як і яго бацька, свайго бацьку не бачыў ніколі. Але Васіль Рыгоравіч цвёрда ўпэўнены, што сын у яго ёсць, што ён жывы, і адзінае, аб чым ён марыць, гэта знайсці на старасці гадоў сваё дзіця. Так што, **калі хто-небудзь ведае ўраджэнца вёскі Сенькавічы Івацэвіцкага раёна Уладзіміра Васільевіча Крыўшу, прыкладна пяцідзесяцігадовага ўзросту, паведаміце, калі ласка, нам у рэдакцыю. Цуд у жыцці адбываецца куды часцей, чым нам здаецца.**

А тады, адразу пасля вайны, зразумеўшы, што акрамя родных бярозак (побач з якімі, між іншым, можна аказацца і ў Сібіры), дома яго ніхто не чакае, Васіль Крыўша вырашыў застацца ў Германіі. Калі хто падумае, што яму захацелася лёгкага хлеба, скажу адразу: нямецкі хлеб Васіль Рыгоравіч паліваў сваім потам не менш, чым беларускі. Адразу пасля вайны працаваў на мясакамбінаце: работа цяжкая, але сытая. Потым -- шафёрам, потым -- на фабрыцы, у транспартнай канторы, на вытворчасці фарбаў і шмат дзе яшчэ. У рэшце рэшт апынуўся зусім без работы і быў вымушаны звярнуцца на біржу працы, дзе яму, даведаўшыся, што ён не немец, проста сказалі: "Едзьце да сябе дамоў, там у вас працы хапае, а тут мы сваіх месцамі забяспечыць не можам". І тады з роспачы і безвыходнасці звярнуўся Васіль Рыгоравіч да бургамістра Гамбурга. Той яго прыняў і, выслухаўшы расказ пра нягоды і пакуты не па сваёй волі трапіўшага ў Германію беларуса, сказаў: "Вы -- наш госць, мы рады вас прыняць і будзем задаволены, калі ў вас тут усё складзецца добра. Адзіная просьба: не ўмешвайцеся ў палітыку і крымінальныя справы, а калі хочаце працаваць, то ў гэтым мы вам дапаможам". І яшчэ адно сказаў яму бургамістр: "Хаця я і не павінен гэтага гаварыць, але раю вам змяніць сваё славянскае імя. Так жыць будзе лягчэй. І пра радзіму сваю ўпамінайце як мага радзей". Вось так Васіль Крыўша і стаў Пітэрам Хюле, чалавекам без радзімы, з чужым імем. Калі пасля візіту да бургамістра Васіль Рыгоравіч зноў прыйшоў на біржу працы, чалавек, які дагэтуль і размаўляць з ім не хацеў, сустрэў яго сардэчна і шчыра, тут жа прапанаваў забыцца пра былыя непаразуменні і адразу ж прапанаваў працу на суднабудаўнічай верфі, а потым -- на хімічнай вытворчасці, дзе той і працаваў дзевятнаццаць гадоў.

Працаваць Васіль Рыгоравіч любіў і ўмеў, слесарам ён быў першакласным, амаль што лепшым з чатырнаццаці слесараў

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**



Прагулка па Свіслачы. Фота Віктара СТАВЕРА.

# ВІНШУЙЦЕ ЖЫВЫХ!

(Заканчэнне.
Пачатак на 3-й стар.

на фабрыцы. Аднак, нягледзячы на тое, што часам яму даводзілася рабіць самую дакладную і складаную справу, зарплату яму, у адрозненне ад нямецкіх спецыялістаў, не павышалі і лічылі чалавекам другога гатунку, пра што час ад часу і нагадвалі. Ды і не толькі на фабрыцы давялося сутыкацца Васілю Крыўшу з гэтай несправядлівасцю. З вялікай горыччу расказаў ён нам, як усяго паўтара года таму, калі ён з сябрамі сядзеў за столікам у рэстаране, немец, які выпадкова падсеў да іх, пачуўшы славянскі акцэнт аднаго з субяседнікаў, прычапіўся да Васіля Рыгоравіча з пытаннем пра яго нацыянальнасць. Даведаўшыся, што перад ім сядзіць беларус, з абурэннем пачаў крычаць на ўвесь рэстаран, што месца яго не тут, сярод прыстойных людзей, а ў газавай камеры. Разгубленага Васіля Рыгоравіча абаранілі сябры, але ж такія выпадкі балюча раняць сэрца і застаюцца ў памяці на ўсё жыццё.

Спрабаваў Васіль Рыгоравіч у былыя часы наладзіць сувязь з радзімай, дзеля чаго і адправіўся ў савецкае пасольства. Але ж першае пытанне, якое яму там задалі, было: "Чаму вы не хочаце ехаць дамоў? Вы ж беларус, значыць, павінны жыць на Беларусі. І не думайце, што там горш, чым тут. Дома ёсць усё, жыццё добрае і заможнае, не тое, што ў гэтай капіталістычнай Германіі". А калі Васіль Рыгоравіч сказаў, што дома яго ніхто не чакае, а да тутэйшага жыцця ён ужо прызвычаіўся, назвалі яго ворагам і здраднікам. Але жаданне яшчэ раз убачыць радзіму і наведаць родныя мясціны з гадамі станавілася ўсё вастрэйшым, і, пачуўшы пра перабудову, разбурэнне берлінскай сцяны і новыя часы, ён праз шмат год рашыўся зноў наведаць пасольства. Пра існаванне беларускага прадстаўніцтва ў Мюнхене ён не чуў, а ў расійскім пасольстве ў Гамбургу яму прапанавалі наведаць Маскву, Ленінград, Крым і іншыя цікавыя мясціны неабсяжнай Расіі. Жаданне ж наведаць Беларусь выклікала здзіўленне і незадаволенасць, нягледзячы на тлумачэнне, што гэта --радзіма, якую ён не бачыў ужо пяцьдзесят два гады. На развітанне Васілю Рыгоравічу канфідэнцыяльна намякнулі, што калі ён хоча жыць, хай сюды не сунецца, бо сітуацыя складаная, у краіне небяспечна, могуць і забіць. Дзіўна, як толькі пра славутых мядзведзяў, што шпацыруюць па вуліцах нашых гарадоў і вёсак, не папярэдзілі.

Аднойчы Васіль Рыгоравіч запрасіў нас да сябе ў госці. Нягледзячы на тое, што жыве ён зусім непадалёку ад цэнтра Гамбурга, на нейкі момант падалося, што апынуліся мы ў роднай Беларусі. Невялікі драўляны дамок, акуратны гародчык з кустамі парэчак і яблынямі, а велізарная і недаверлівая да чужых нямецкая аўчарка паслухмяна адклікаецца на цалкам айчынную мянушку Мурка.

Можа некаму падасца дзіўным наш далейшы маршрут, але мы адправіліся на знакамітыя гамбургскія могілкі. Гэта сапраўдны велізарны горад мёртвых, са сваімі дамамі -- фамільнымі склепамі, капліцамі, вуліцамі і дарогамі, па адной з якіх мы павольна рухаліся да мэты свайго наведвання -- выкананай у форме велізарнага крыжа брацкай магілы загінуўшых пры бамбардзіроўцы Гамбурга ў ноч на 28 ліпеня 1943 года. Тады амерыканская авіяцыя практычна ўпершыню прыменілым метадам "дывановага бомбакідання" амаль цалкам знішчыла Гамбург. Пад абломкамі дамоў партовага горада засталіся ляжаць 254 тысячы дзяцей, жанчын, старых. Можа быць, іх было і больш, але рускія ваеннапалонныя (сярод якіх быў і беларус Васіль Крыўша), што раніцай віламі зграбалі тое, што засталося ад людзей, не вялі дакладных падлікаў.

Вялікія лічбы прытупляюць эмоцыі, але для параўнання скажу, што пры бамбардзіроўцы Хірасімы загінула 150 тысяч, а ў Нагасакі -- 70... Так, рознымі былі прычыны і мэты гэтых бамбардзіровак, але ж боль і жаль у гэты момант перапаўнялі сэрца. Праз пяцьдзесят год знікае пачуццё варожасці, і ўжо няма ні сваіх, ні чужых, ні рускіх, ні немцаў, а толькі туга і памяць аб людзях, чые жыцці так жахліва і заўчасна абарваліся цёплай ліпеньскай ноччу. І гэтым самым велізарным і цяжкім магільным крыжам яшчэ раз кладзецца на душу перакананне: няма ніводнай палітычнай ідэі, за якую было б варта прыносіць у ахвяру чалавечыя жыцці. Ад самога ж Пітэра Хюле не застанецца нават і магілы, бо ён завяшчаў пасля сваёй смерці развеяць свой попел з высокага ўзгорка на тых жа гамбургскіх могілках. Чалавек без радзімы пры жыцці стане чалавекам без магілы пасля смерці. Быў ці не быў, жыў ці не жыў, здаецца, і следу не застанецца ад гэтай доўгай чарады кароткіх дзён... Чамусьці ўспомніліся словы, якімі развітваўся з намі Васіль Рыгоравіч: "Бывайце і абавязкова віншуйце ўсіх знаёмых і незнаёмых". З чым?

Напэўна з тым, што жывыя...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ПРАЗ ПАКУТЫ — ДЗЕЛЯ ВЕРЫ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Чтобы прекратилось епархиальное управление за упразднением консистории? Чтобы закрыты были школы, готовящие пастырей? Конечно, для вашего православного сердца это страшный удар... Это тяжелое оскорбление Церкви и вас, православных верующих.

Встаньте же, возлюбленные и благочестивые чада наши, на защиту святой веры и Церкви нашей, на защиту Ее храмов и монастырей... Не дозволяйте нечистым рукам прикасаться к святыням нашим и насильничать над Церковью и грабить Ее достояние... Защитите священников ваших, которые глаголят вам Слово Божье и освящают вас благодатью таинства. Громко заявите, что вы не позволите оскорблять Церковь, гнать и предавать Ее служителей на посмеяние. Это будет святое и великое дело, это будет великая заслуга ваша перед Богом и Церковью, и награда ваша будет велика на небесах. Это будет мужественное исповедание Христа и Его учения, а "кто исповесть Его пред человеки, того и Сын Человеческий исповесть пред Ангелами Божьими". Через приходские собрания и советы требуйте изменения отношения к Церкви Православной и возвращения церковного имущества, захваченного насильниками.

Я, как Архипастырь ваш, благословляю вас на это святое дело. Никто, может быть, так не страдает за Церковь Минскую, как страдаю я, поставленный для руководства вашего ко спасению. Не так материальные лишения заставляют меня страдать, как это дерзкое осмеяние и поругание Церкви, проявленное неверующими властями...

Дайте же мне возможность утешиться сочувствием вашим, любовью вашей, преданностью вашей вере и Церкви, твердым стоянием вашим за Христа!

Благодать Господа нашего Иисуса Христа буди со всеми вами. Смиренный Георгий, Епископ Минский и Туровский.

*Москва, 25 января 1918 года*".

Мы не выпадкова амаль поўнасцю пераказалі тут пасланне епіскапа Георгія (Ярашэўскага). Яно ўводзіць нас у тую гістарычную атмасферу, у якой апынуліся веруючыя Мінскай епархіі ў першыя ж тыдні рэвалюцыі.

Кампанія па разрабаванню Царквы, акрамя Мінска, закранула і іншыя гарады і вёскі епархіі, аднак разгарнуцца ў поўнай меры не паспела: у лютым 1918 года тэрыторыя епархіі аказалася занятай немцамі.

Пасланне епіскапа Георгія было надрукавана ў "Мінскіх Епархіяльных Ведамасцях", што пасля гэтага некаторы час не выдаваліся. Апошні нумар "Ведамасцяў" выйшаў вясной 1920 года. Надрукаваны на паперы крайне нізкай якасці, ён змяшчаў у сабе кароткія матэрыялы аб некаторых падзеях з епархіяльнага жыцця ў прамежак часу з 1918 па 1920 год.

Як вядома, у гэты час у краіне ішла кровапралітная вайна. Значная частка тэрыторыі Беларусі была акупіравана спачатку нямецкімі войскамі, потым -- польскімі ваеннымі фарміраваннямі. З адступленнем з Мінска немцаў з імі выехаў узведзены ў сан архіепіскап Георгій (Ярашэўскі).

У 1919 годзе Мінскую епархію ўзначаліў другі архірэй -- епіскап Мельхіседэк (Паеўскі). Першае ўпамінанне аб ім як кіраўніку епархіі мы сустракаем у епархіяльных ведамасцях 1920 года, дзе ён фігуруе пад тытулам епіскапа Слуцкага.

З імем Мельхіседэка цесна звязана гісторыя нашай епархіі першай палавіны 20-х гадоў. Разумеючы ўсю складанасць адкрытага процістаяння бальшавікам пасля атрыманай імі перамогі ў грамадзянскай вайне, епіскап Мельхіседэк (Паеўскі) стараўся праводзіць палітыку кампрамісу, пазбягаючы рэзкіх канфліктаў з уладамі.

У 1922 годзе па прасторах неабсяжнай Расіі прайшла хваля канфіскацыі царкоўных каштоўнасцей, што трывожным рэхам беззаконня адгукнулася таксама ў Беларусі. Тады з цэркваў забіралася усё, што мела хоць нейкую каштоўнасць у вачах бязбожнай улады. Прычынай для аграблення храмаў паслужыў голад, што пачаўся ў Паволжы, -- страшны вынік грамадзянскай вайны, развязанай бальшавікамі.

Усведамляючы неабходнасць збору сродкаў для выратавання галадаючых, Мельхіседэк пайшоў насустрач патрабаванням уладаў і звярнуўся да веруючых са спецыяльнай адозвай, заклікаўшы іх здаць дзяржаве тыя прадметы царкоўнага ўжытку, якія не мелі сакральнага значэння. Нягледзячы на гэта прадстаўнікі ўладаў сталі забіраць усё, што лічылі патрэбным забраць, не звяртаючы асаблівай увагі на тое, ці маюць прадметы богаслужэбнае ўжыванне ці не. Тым не менш якіх-небудзь буйных інцыдэнтаў у Мінскай епархіі не адбылося. Сваю ролю міратворца тут адыграў Мельхіседэк.

Улады не хацелі даравасць Уладыку яго міратворчасць. Таму ў жніўні 1924 года ён быў заключаны пад хатні арышт. Мельхіседэка спрабавалі судзіць, аднак веруючы народ так любіў свайго архіпастыра, што ў вялікай колькасці сабраўся насупраць таго будынка, дзе праходзіў працэс, і гэта здалося ўладам пагрозай. "Страха ради иудейска" перад прысутным народам Мельхіседэка вызвалілі, умоўна прыгаварыўшы да 3 год пазбаўлення волі.



Увогуле, Уладыка Мельхіседэк карыстаўся вельмі вялікім аўтарытэтам сярод веруючых епархіі, асабліва -- жыхароў Мінска. Вось што пісаў пра яго ў сваіх успамінах протаіерэй Барыс Васільеў (1994 год): "... Мельхіседэк Паеўскі штодзённа здзяйсняў урачыстыя богаслужэнні ў Св. Пятра-Паўлаўскім кафедральным саборы. Штогод у Вялікі Чацвер сам праводзіў слёзныя споведзі ў саборы, здзяйсняў чын абмывання ног. Асабліва веруючым запомніліся хрэсныя ходы на чале з Мельхіседэкам. Яны адбываліся з Крупецкай іконай Божай Маці. Урачыстая працэсія заўсёды спынялася перад Св. Кацярынінскай царквою на месцы, дзе цяпер мост па праспекту Машэрава. Тут служыўся перад іконай урачысты малебен. Нават яўрэі, што жылі ў бліжэйшых дамах, выходзілі на балконы любавацца ўрачыстасцю..."

Аўтарытэт Мельхіседэка быў нібы бяльмо на вачах ва ўладаў. Не рашаючыся арыштаваць яго непасрэдна ў Мінску, яны восенню 1925 года выклікалі яго ў Маскву. Там Мельхіседэк быў пазбаўлены волі і сасланы ў Марыйскую вобласць.

Яго паслядоўнікам стаў епіскап Бабруйскі Філарэт (Раменскі), узведзены ў сан архірэя ў сакавіку 1923 года (да рэвалюцыі працаваў інспектарам Мінскай духоўнай семінарыі).

Разам з Мельхіседэкам у ліпені 1922 года Філарэт удзельнічаў у абвяшчэнні аўтаноміі Беларускай Праваслаўнай царквы. Пасля ад'езду Мельхіседэка ў Маскву ён фактычна ўзначаліў кіраванне епархіяй, сумеўшы згуртаваць вакол сябе большую частку духавенства, якое служыла ў ёй.

Разам з епіскапам Філарэтам вясной 1923 года ў Мінску былі ажыццёўлены хіратоніі двух удовых протаіерэяў: Мікалая Шамяцілы, які атрымаў прызначэнне ў Слуцк, і Іаана Пашына, які адправіўся на жыхарства ў Петрыкаў, з вызначэннем за ім кафедры ў Мазыры.

Усе яны лічыліся вікарыямі Мінскай епархіі, але Уладыку Філарэту, як бліжэйшаму да Мельхіседэка епіскапу, належала першынство гонару.

Уладыка Іаан (Пашын) не доўга праслужыў у якасці архірэя. За стараннае выкананне сваіх абавязкаў, што выявілася ў частым наведванні прыходскіх цэркваў падведамнай яму вобласці, а таксама за навучанне сельскіх дзяцей асновам царкоўных спеваў ужо летам 1925 года ён быў прыцягнуты да следства і праз год з невялікім высланы ў Зыранскі край.

**Свяшчэннік Фёдар КРЫВАНОС.**

**НА ЗДЫМКУ: епіскап ФІЛАРЭТ (Раменскі).**

(Працяг будзе).

# У ПАЛОНЕ ГІСТАРЫЧНЫХ МІФАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Узгадаем нашага філосафа-атэіста Казіміра Лышчынскага. Царкоўныя ўлады патрабавалі ад сойма выдаць яго на катаванне, каб вырваць імёны паплечнікаў. Але сойм адмовіў царкоўнаму суду. Праўда, Лышчынскага пазней спалілі, але яго так і не катавалі.

Вернемся да пытання -- выгадна ці не тады было далучацца да Расіі. У нас, як бачым, -- шляхецкая рэспубліка, у Расіі -- пік абсалютызму, калі прадстаўнікі самых знатных родаў вымушаны сябе называць "холопами государевыми". Якраз тады Расію трэсла пугачоўская вайна, як пратэст супраць нечуванай эксплуатацыі прыгонных.

Звернемся да эканомікі. На той час у Расіі гаспадарка мела прымітыўныя, патрыярхальныя формы: сяляне працавалі на паншчыне. У нас сяляне ўжо плацілі пераважна грашовы аброк--чынш, у выніку чаго мелі больш магчымасці займацца сваім кавалкам зямлі.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай на змену прафесійнаму войску Вялікага Княства Літоўскага прыйшлі рэкруцкія наборы, якія існавалі ў Расіі, -- таксама прымітыўная, феадальная форма забеспячэння камплектацыі войска. У рэкруты бралі маладых здаровых мужчын з 19 да 35 год, якія спачатку служылі ўсё жыццё. Рэкрута праводзілі як на смерць -- яго больш не бачылі ні маці, ні бацька, ні сястра... Толькі ў 1793 годзе пажыццёвы тэрмін рэкрутчыны абмежавалі "ўсяго толькі" дваццаццю пяццю гадамі. Дарэчы, Расія з беларускіх земляў брала больш рэкрутаў, чым са сваіх уласных губерняў. Па падліках гісторыкаў, у 1811 годзе наш народ складаў дзесятую частку насельніцтва імперыі -- тады ў Расіі жыло сорак мільёнаў, а пастаўляў кожных 15 рэкрутаў з сотні. Беларусы рабіліся гарматным мясам у захопніцкіх царскіх войнах.

Беларускія гарады паводле магдэбургскага права мелі самакіраванне. Магістрат займаўся падаткамі, камунальнымі праблемамі і г.д., што Расіі было абсалютна невядома. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай гарады адразу страцілі самакіраванне.

Падаткі ў беларускіх губернях пасля іх далучэння да Расіі новыя ўлады збіралі не ў асігнацыях, а ў золаце і срэбры -- у звонкай манеце. Па неафіцыйным курсе ў канцы XYIII стагоддзя 100 папяровых рублёў раўняліся недзе 20 рублям срэбрам. Лёгка падлічыць, што цяжар падаткаў, якія нашы, так бы мовіць, вызваліцелі апусцілі на плечы блізкага народа, быў у 5 разоў большы, чым ва ўнутраных расійскіх губернях. Такое становішча існавала да 1811 года. Можна яшчэ дадаць, што Кацярына II і Павел I раздалі сваім фаварытам у беларускіх губернях 208 тысяч душ "мужеска полу" прыгонных сялян. Па душах "мужеска полу" лічыліся тады сялянскія сем'і. Сярэдняя з іх складалася з 5 чалавек. Мільён беларусаў сталі прыгоннымі рускіх памешчыкаў. Большасць гэтых сялянаў і раней была прыгоннымі, але дзесяткі тысяч яшчэ захоўвалі асабістую свабоду. Цяпер жа былі запрыгонены ўсе, і, як мы ўжо казалі, формы эксплуатацыі змяніліся на больш прымітыўныя і жорсткія. З гэтага можна зрабіць выснову, наколькі выгадна было тады "далучацца" ці "ўз'ядноўвацца" з усходняй суседкай.

**-- Вельмі часта кажуць, што, маўляў, затое у выніку знішчылі рэлігійны ўціск.**

-- Нічога падобнага. На той момант толькі шэсць з паловай працэнтаў насельніцтва беларускіх земляў належалі да праваслаўя, а тры чвэрткі, па падліках доктара гістарычных навук Анатоля Грыцкевіча, былі уніятамі -- грэка-каталікамі. І хаця новая вера сустракалася спачатку многімі непрыхільна, у XVIII стагоддзі уніяцтва ўжо перамагло, прычым мірным шляхам. Але уніяцтва з яго нацыянальнай арыентацыяй вельмі не падабалася царызму, і таму ў 1839 годзе уніятаў перагналі з-пад палкі назад у праваслаўе. Пратэстуючы, многія з беларусаў пайшлі ў каталіцкую канфесію. Адбыўся раскол нашага народа на католікаў і праваслаўных, ад якога мы шмат церпім і зараз.

**-- Вы мяркуеце, што аб'яднанне з Масквой дзвесце год назад наогул ніякіх станоўчых вынікаў не мела!**

-- Пры жаданні станоўчыя вынікі можна знайсці ў чым хочаце. Але зноў жа для людзей, хто прывык верыць класікам марксізму-ленінізму, а ў нас такіх яшчэ вельмі шмат, я хачу сказаць: беларусы дзвесце гадоў таму трапілі ў краіну, якую сам Ленін называў "турмой народаў", а Маркс і Энгельс характарызавалі як жандара Еўропы, бо менавіта Расія сваімі войскамі душыла рэвалюцыі ў суседніх краінах. Вось такія ацэнкі, з дазволу сказаць, "незалежных экспертаў". Вядома, можна сцвярджаць, як у нас пісалася ў падручніках, што беларускі народ аб'яднаўся з братнім рускім, каб паспяхова змагацца з царызмам і перамагчы, у рэшце рэшт, у Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі...

Безумоўна, мы можам знайсці і нейкія станоўчыя моманты, у прыватнасці, гэта ўключэнне ў агульнарасійскі рынак, што камусьці дало нейкія выгады, але падкрэслім галоўнае: падзел Рэчы Паспалітай быў разбойным знішчэннем незалежнай краіны, ажыццёўленым Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй. Гэты падзел на доўгі час пазбавіў і нас, і літоўцаў, і нашых суседзяў палякаў уласнай дзяржаўнасці.

Няхай чытач сам пашукае аналогіі з сучаснасцю.

**-- Цікава, якія знешнія прыярытэты былі ў Вялікага Княства Літоўскага!**

-- У дэмакратычных палітыкаў цяпер існуе лозунг -- "назад у Еўропу". Шмат хто ўспрымае яго як нейкую рытарычную фігуру -- вось, маўляў, Пазьняк прыдумаў ці хто-небудзь яшчэ. Але тут няма ніякай гіпербалы. Беларусь сапраўды была ўпісана ў еўрапейскі кантэкст з усімі этапамі развіцця агульнаеўрапейскай гісторыі, з усімі уласцівымі ёй асноўнымі перыядамі. Беларусь была ўсходнім фарпостам эпохі Адраджэння, якой Расія не ведала. Гэтаксама, як не ведала і Рэфармацыі, потым Контррэфармацыі. Мы былі ў рэчышчы агульнаеўрапейскай гісторыі з яе палітычнымі і культурнымі каштоўнасцямі. Калі казаць пра нашы знешнія прыярытэты, іх вектар паказваў на захад. Так, дзяржава не магла не лічыцца з усходнім суседам. Але што мы мелі ад гэтага суседства? Маскоўскія цары нязменна дзейнічалі ў адпаведнасці з тэзісам, што Масква -- гэта трэці Рым. Масква прэтэндавала на ўсе ўсходнеславянскія землі, і ў выніку адбываліся бясконцыя памежныя сутычкі і войны, у тым ліку самая страшная вайна ў нашай гісторыі. Хоць мы лічым самай страшнай мінулую вайну, але, як вядома гісторыкам, у вайне Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай 1654--1667 гадоў Беларусь страціла кожнага другога свайго жыхара.

А потым Паўночная вайна, дзе нібыта Беларусь і была саюзніцай Пятра I. Але саюзнікі паводзілі на нашай тэрыторыі сябе так, што іх было вельмі цяжка адрозніць ад захопнікаў: салдаты Пятра I узарвалі Сафійскі сабор, царскія калмыкі і казакі спалілі Віцебск і Магілёў, разрабавалі Менск. Амаль на трэцюю частку скарацілася за гады Паўночнай вайны насельніцтва Беларусі -- на 800--900 тысяч з трох мільёнаў жыхароў. Расія, як саюзніца, патрабавала забеспячэння сваіх войскаў, але адначасова наладжвала карныя акцыі. Я думаю, гэта таксама адказ на пытанне пра знешнія палітычныя прыярытэты.

А з заходнімі краінамі наша дзяржава магла суіснаваць на нейкіх больш-менш парытэтных пачатках у плане тэрытарыяльным і эканамічным, ваенным. З усходу ж навісала велізарная глыба, якая несла, як мы ведаем, зусім не "свабоду, роўнасць і братэрства" -- лозунгі, якія ўжо шырока дэкларавaліся ў Еўропе.

**-- Добра, а калі казаць пра ўнутраную атмасферу!**

-- Праблема ўнутраных прыярытэтаў наогул вельмі і вельмі важная. У гэтым мы пераконваемся і сёння. Мяне вельмі хвалюе праблема нацыянальнай кансалідацыі беларусаў, асабліва ва ўмовах, калі ўсё больш павялічваецца небяспека для нашага суверэнітэту.

Што ж кансалідуе нацыю? Магчыма, я памыляюся, але, мне здаецца, велізарную ролю тут павінна адыграць агульная гістарычная свядомасць народа. Я лічу, што гэта больш істотна, чым нават мова. Паглядзіце, Швейцарыя гаворыць на некалькіх мовах, але застаецца дэмакратычнай, высокацывілізаванай краінай, і такой яе робіць менавіта агульнасць гістарычнай свядомасці народа, які ўсведамляе сябе адзіным, хаця і гаворыць на розных мовах. Я не хачу прыменшыць ролю беларускай мовы ў нацыянальнай кансалідацыі -- яна таксама вельмі істотная. Але бачу тут прыярытэт гістарычнай самасвядомасці людзей. На жаль, гэтая наша свядомасць на сённяшні дзень уяўляе сабой відовішча досыць сумнае, і калі звярнуцца да нейкіх літаратурных вобразаў, мне бачыцца затанулы карабель, які спрэс аброс ракавінамі і багавіннем. Мы спрабуем гэты карабель падняць, але пакуль удалося пабачыць над вадой толькі самую вяршыню слямгі з бел-чырвона-белым сцягам, над якім таксама навісла небяспека.*

Як і казаў, я прыхільнік формулы гістарычнага аптымізму. Усё ж такі спадзяюся, што і мы дажывем да таго часу, калі беларуская мова не будзе ўспрымацца на нашых вуліцах, як нешта экзатычнае, калі не будуць называць беларускіх дзяцей Сашамі ў гонар Суворава альбо Аляксандра Неўскага, асоб, якія не мелі да айчыннай гісторыі ніякага дачынення альбо мелі пэўнае негатыўнае. Нашы людзі сталі ахвярай апрацоўкі мазгоў, якая вялася ўсе гэтыя дзвесце гадоў у межах імперыі, якая працягваецца антынацыянальнымі сіламі і цяпер.

**-- З мінулага хто, на ваш погляд, прыклад выдатнага для Беларусі дзеяча ці дзеячаў у сферы ўлады!**

-- Для мяне, як для гісторыка, прыклад высокага патрыятызму, высокай дзяржаўнай мудрасці дае канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега, асоба, якая стаяла ля вытокаў стварэння канстытуцыі Вялікага Княства -- Статута 1588 года, чалавек, які не толькі напісаў да гэтага кодэксу бліскучую прадмову, але і выдаў яго на свае ўласныя сродкі, які імкнуўся да прымірэнння канфесій... І сёння я мару пра такую вярхоўную ўладу на Беларусі, якая найперш будзе кіравацца інтарэсамі сваёй дзяржавы.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

---

* Размова ішла да рэферэндуму 14 мая.

**АД РЭДАКЦЫІ.**

Мы разумеем, што гэтае інтэрв'ю з пісьменнікам Уладзімірам Арловым знойдзе разуменне і падтрымку не ва ўсіх нашых чытачоў. Але мы яшчэ раз прапануем зазірнуць на апошнюю старонку "Голасу Радзімы", дзе напісана, што думкі аўтара і пазіцыя газеты не заўсёды супадаюць. Зрабіць гэта прапануем не дзеля таго, каб засцерагчыся ад афіцыйных пінкоў, а каб падкрэсліць яшчэ раз, што ў нашым грамадстве жывуць розныя людзі, існуюць розныя ацэнкі далёкай гісторыі і сучаснасці, розныя падыходы і разуменне паняцця дэмакратыі. У рэдакцыі таксама ёсць свой погляд наконт многіх выказванняў У.Арлова. Мы б хацелі, каб гэта інтэрв'ю стала пачаткам палемікі, штуршком для выказвання альтэрнатыўных думак.

Калі ласка, запрашаем да дыскусіі!

---

*ВЯРНІЦЕ ПАМЯЦЬ!*

# СЛЁЗЫ СТАРОГА АЛЯКСАНДРА

У ДУДЗІЧЫ дарога нядоўгая. У самае дрэннае надвор'е і гадзіну не патраціш на аўтамабілі. Што ні кажы, пад самым Мінскам. І вось Наваполле, пасля Дудзічы. Улічваючы вясенняе бездарожжа, і не спрабуем патрапіць на запаветную зямлю... Калі не жартам, а ўсур'ёз -- то гэта пра Дудзіцкі музей матэрыяльнай культуры, прыватны, дарэчы, музей пісьменніка і прадпрымальніка Яўгена Будзінаса. Дык вось, спыніўшыся ля Пцічы -- хуткай і вёрткай дудзіцкай рэчкі, пешшу ідзём у Будзінаўку. Недзе на Рудзеншчыне, кажуць, ёсць пасёлак Будзёнаўка. А тут вось Будзінаўка -- у гонар сучаснага гаспадара... Усё ж назва мясцовая і зразумелая. Ды толькі ў музей не спяшаешся. Па дарозе, услед за лецішчам Яўгена Дамінікавіча, некалькі хат маленькай вёсачкі Пціч. Дакладней, аднайменнага з назвай рэчкі пасёлка. Гістарычнасці ў ім асаблівай няшмат. Узнікла вёсачка ў часы "Прышчэпаўшчыны", калі на пачатку дваццатых на Беларусі дзялілі панскую зямлю. Знаходзім у Пцічы хату Аляксандра Іванавіча Кучынскага. Якраз ля старой буслянкі.

Знаёмімся. Згорблены ад часу і нялёгкага жыцця, сталага веку, Аляксандр Іванавіч надта ў роспыты не кідаецца. Моўчкі пагаджаецца падтрымаць нашу цікаўнасць у росшуках магілы Аляксандра Карлавіча Ельскага.

... -- Толькі вось рыдлёўку прыхаплю, -- заўважае Кучынскі. -- Мо дзе што адкапаць трэба будзе...

Спакваля ладзіцца і размова з колішнім настаўнікам беларускай мовы і літаратуры Азярычынскай сярэдняй школы. Аляксандр Іванавіч пражыў багатае на падзеі жыццё. Скончыў школу, тэхнікум, настаўніцкі інстытут. Нараджэння 1909 года. Сярод аднакашнікаў па даўняй вучобе -- Уладзімір Дудзіцкі (сапраўднае прозвішча -- Гунько), вядомы сёння беларускі паэт-эмігрант. Добра ведаў Аляксандр Іванавіч і земляка Уладзіміра Хадыку, паэта Язэпа Пушчу, уздзенскага пісьменніка Сымона Баранавых. Сам пісаў у маладосці вершы. Ахвоту да творчасці перабіў Кучынскаму 1932-гі... Пайшоў 23-гадовы малады чалавек у вандроўку па пакутах -- у ГУЛАГу...

Аляксандр Іванавіч, прыхапіўшы рыдлёўку, вядзе да Ельскага. Да забытай і фактычна згубленай у літаратурна-мастацкай гісторыі Беларусі магілы. І зноўку праз кладкі-масточкі пераходзім Пціч, а пасля і старое, відаць, рэчышча, ды яшчэ слядочак-ручаёк ад колішняга грабнога канала Ельскіх.



Прашу Кучынскага нешта ўзгадаць пра пана-дзівака. Аляксандр Іванавіч памяркоўна заўважае:

-- Эх, гадоў бы так з пятнаццаць назад вы прыехалі... Шмат яшчэ старых было. Сёння ўжо не тое... Ці памятаю я пана Ельскага? Не, не памятаю...

Калі памёр Ельскі, хлопчыку Алеську Кучынскаму было ўсяго толькі сем гадоў. Затое з задавальненнем перадае пцічанскі старажыл успаміны іншых:

-- Вельмі культурны і спагадлівы быў пан. Даваў сялянам граматным кніжачкі чытаць. І свае, і другіх аўтараў...

Выходзім да поля. На мяжы Дудзічаў нас сустракаюць прыгожыя двухпавярховыя катэджы. Яны ўзвышаюцца над намі сваёй барскай годнасцю. Цікава, ці ведаюць гаспадары гмахаў-хмарачосаў, што ў некалькіх сотнях крокаў ад іх у чыстым полі на відавочным для ўсяе акругі астраўку-кургане ляжаць косці некалькіх пакаленняў славутага роду Ельскіх? Наўрад ці. Пра гэта і гаварыць не хочацца.

Ідзём па свежай, дажджом акропленай, закультываванай яшчэ з восені зямлі. Ды свежасць патыхае з кожнай скібачкі перакуленай, парэзанай зямелькі.

-- Ну вось і Кобан, -- узмахвае стары рукою. -- Скажы каму ў вёсцы, што пойдзем на каталіцкія могілкі, то і не зразумеюць. А вось Кобан усе ведаюць.

**НА ЗДЫМКУ: Аляксандр КУЧЫНСКІ паказвае сляды ад магілы Ельскіх.**

**Фота Міхася ХАМЦА.**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

ФЕСТЫВАЛІ





**Чацвёрты раз у Паставах прайшоў Рэспубліканскі фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Шаснаццаць музычных і танцавальных калектываў з усіх абласцей рэспублікі прывезлі на свята мелодыі і песні свайго краю. Сярод іх ансамбль народнай музыкі "Раніца" з Кобрына, танцавальны калектыў "Прамень" з Новалукомля, народны ансамбль "Явар" з Мазыра, ансамбль народных інструментаў горада Поразава з Гродзеншчыны. Міншчыну прадстаўлялі ансамблі народнай музыкі з Заслаўя і Старых Дарог.**

**Фестываль у Паставах набывае статус міжнароднага. Сёлета тут пабывалі госці з Расіі, Украіны, Польшчы.**

**У праграме фестывалю адбыўся конкурс выканаўцаў на народных інструментах. У ім удзельнічалі вучні дзіцячых музычных школ Віцебскай вобласці.**

**Свята народнага мастацтва ахапіла ўвесь раён. Самадзейныя артысты выступалі ў вёсках Груздава, Варапаева, Лынтупы, Ляхаўшчына і іншых. Пяць музычных калектываў сталі дыпламантамі фестывалю, а пераможцам -- пастаўскі ансамбль народнай музыкі "Паазер'е" пад кіраўніцтвам Анатоля Собаля.**

**НА ЗДЫМКАХ: свята народнай музыкі ў Паставах.**

**Тэкст і фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

## МАСТАЦТВА "СТРЫЖНЯВОЙ ІСЦІНЫ"

У Палацы моладзі горада Мінска пры падтрымцы Міністэрства адукацыі і навукі, а таксама Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь адбылася выстава твораў пецярбургскага мастака Уладзіміра Лубенкі і ягоных вучняў. Паводле слоў пасла Расіі І.Сапрыкіна, які адкрыў выставу, яна пабывала ў многіх краінах свету і прывандравала да нас з Кіева. Быў зачытаны зварот У.Лубенкі да наведвальнікаў выставы: "Гэтая культурная праграма -- голуб міру. Ніхто не выратуе мір на планеце, калі не мы, тры славянскія дзяржавы, якія ўвасабляюць дух адзінай, лебядзінабелай Русі. Вялікая раса славян павінна дапамагчы іншым стварыць свет, дзе будуць цараваць гармонія і шчасце..."

Гэтымі ды іншымі месіянскімі ідэямі прасякнуты і самі творы пецярбургскага гуру, стваральніка і духоўнага правадыра Малой Акадэміі мастацтваў. Чаго вартыя ўжо іхнія назвы: "Апакаліпсіс XX стагоддзя", "Заквітнелі ерыхонскія трубы", "Ідзі і ратуй" і г.д. Па стылі гэтыя карціны -- неўявімы "кентаўр" праваслаўнага іканапісу і сімвалізму або нават (у пейзажах) імпрэсіянізму. Сузіраць іх цяжка: перспектыва адсутнічае, шматлікія персанажы змагаюцца за ўвагу гледача, агрэсіўныя колеры робяць палотны падобнымі да вайсковых сцягоў і хутка стамляюць зрок.

Паводле У.Лубенкі, мы перажываем зараз найбольш змрочны час, але гэта час перад світанкам. Адрадзіцца ж духоўна здэградаванаму чалавецтву павінна дапамагчы вучэнне аб "Стрыжнявой ісціне", вынайдзенае мастаком праз сінтэз рэлігіі і навукі, паэзіі і філасофіі. Маніфест "Стрыжнявой ісціны" нагадвае адначасна біблейскія запаветы, "Дзетку" народнага лекара Іванова ды мноства іншых тэкстаў парафіласофскай літаратуры. Але Малая Акадэмія мастацтваў -- гэта не столькі новая секта, колькі нетрадыцыйны цэнтр дзіцячай творчасці з вялікім спектрам мастацкіх, тэатральных, музычных і іншых праектаў. У.Лубенка і ягоныя паплечнікі паставілі сабе за мэту выхаванне гарманічна развітой асобы -- мастака не па прафесіі, але па жыцці.

# МАЕ ДЗЯДЫ І РАДАЎНІЦЫ

Іду далей. Каля самай царквы малапрыкметны помнік. На рудаватым граніце выбіта: "Пісьменнік Эдуард Самуйлёнак. 1907--1939". Божа мой! Толькі трыццаць два гады пражыў гэты таленавіты мастак. На вечнае развітанне з ім Купала сказаў:

**"Дружа мой, сокале ясны, крылаты,**
**Крылы навекі апалі твае, --**
**Ты ўжо не прыйдзеш на нашыя святы,**
**Голас твой песень для нас не спяе".**

Я не мог быць на яго пахаванні, не бачыў у труне, і для мяне Эдуард застаўся ў памяці высокі, бялявы, ружовашчокі, з арлiным носам, светлымі вачыма за тоўстымі рагавымі акулярамі. Ён быў дасціпны, здатны на трапныя жарты, майстра расказваць найцікавейшыя гісторыі. Гэта былі моманты натхнёнага творчага ўздыму.

Самуйлёнак для мяне ў пару юнацтва быў ледзь не жывым класікам. У літаратуру ён увайшоў адразу і стаў шырока вядомым з першай публікацыі ў часопісе "Узвышша" аповесці "Тэорыя Календрун". Яго чыталі, пісалі артыкулы, а ён ціха жыў у Полацку і дапазна сядзеў у пакоі адказнага сакратара газеты "Чырвоная Полаччына". У Мінску ён бываў рэдка, і мала хто яго бачыў. Позняй восенню 1934 года рэдакцыя "Звязды" даручыла Юрку Лявоннаму і мне падрыхтаваць разварот пра Полацкую пагранічную акругу і першыя палітаддзелы МТС. Пасяліліся мы ва ўтульным нумары драўлянай гасцініцы з круглаю, акаванаю чорнаю бляхаю печкай. Першая сцежка прыезджых карэспандэнтаў у першую чаргу вядзе ў рэдакцыю мясцовай газеты. Там упершыню і ўбачыў Эдуарда. "Тэорыя Каленбрун" зрабіла яго адразу папулярным пісьменнікам, а ён нібыта і не заўважаў гэтага, быў таварыска просты, вясёлы, гаваркі, шмат цікавага расказаў пра Ветрынскую МТС, пра палітаддзельцаў Плаўніка і Мешкеса, параіў абавязкова наведаць сакратара акруговага камітэта Турлая і старшыню акруговага выканкома Шабалтаса, абяцаў пазваніць ім пра наш прыезд. Пацікавіўся, чым будзем занятыя ўвечары. Пакуль не ўтрэслі праграму з начальствам, сёння, мабыць, нічым. "Тады пасля работы заскочу да вас".

І сапраўды ўвечары завітаў са сваім неразлучным другам аграномам Валодзем Дабравольскім. Прыйшлі не з пустымі рукамі, а ў нас у грубцы даходзіла на патэльні кальцо сялянсай каўбасы на тоўстых бурштынавых скварках. Эдуард панюхаў: "О, малайцы, кемлівыя хлопцы" і загадаў Валодзю скокнуць у аптэку. Яна была якраз насупраць гасцініцы. Навошта яму спатрэбілася аптэка, мы з Юркам даўмецца не маглі.

Праз колькі хвілін з'явіўся яго друг, невысокі, драбнатвары юнак, у кажушку, пацягнутым кортам, у кепачцы, з не злінялымі яшчэ на шчоках вяснушкамі, і выцягнуў з кішэні заінелыя дзве пляшкі нарзану. Эдуард з кішэні чорнага паліто дастаў паўлітэрку, зашыпела на стале патэльня, наша дзяжурная прынесла талерку квашанай капусты. Гаспадарыў Эдуард: увалье трохі гарэлкі і далівае халодным нарзанам. Мы здзівіліся. "Няўжо вы не чулі? Кажуць, дзядзька Янка толькі з нарзанам можа выпіць кілішак. Будзем раўняцца на класікаў", -- зарагатаў Самуйлёнак.

Пакуль мы былі ў камандзіроўцы, Эдуард ледзь не кожны вечар адведваў нас, пакуль не скончыўся ў аптэцы нарзан.

Праз нядоўгі час ён пераехаў у Мінск. Згадзіў пакойчык недзе каля Маркаўскай вуліцы і пайшоў працаваць у рэдакцыю "Літаратуры і мастацтва". Пасябраваў з калегамі па рэдакцыі Мікулічам, Скрыганом, Звонакам, Блісцінавым. І Валодзя Дабравольскі быў неразлучны з ім.

Праз нейкага паўгода ў Доме пісьменніка Эдуард з'явіўся з прыгожаю кучараваю бландзінкай -- жонкаю Марыяй Самуйлёнак.

Я вучыўся і працаваў у "Чырвонай змене", ён шчыраваў у "ЛіМе", і была ў яго больш салідная кампанія, хоць часамі сустракаліся з ім у сталоўцы Дома пісьменніка і на фабрыцы-кухні.

У 1935 годзе шырока і на самым высокім узроўні святкаваўся пятнаццацігадовы юбілей Галубкоўскага -- Трэцяга беларускага дзяржаўнага тэатра, прапісанага ў Гомелі. Я пасля інстытута працаваў на Беларускім радыё, вёў нестудыйныя перадачы. Да юбілею тэатр ставіў інсцэніроўку па "Тэорыі Каленбрун" -- "Сяржант Дроб". На юбілей тэатра мы дамовіліся з Самуйлёнкам ехаць разам. Была позняя змрочная, але сухая восень, з ранішнімі прымаразкамі. Як добра выўднела, мы ўжо былі ў Гомелі. Ні таксі, ні аўтобусаў яшчэ не было, і мы выправіліся пехатою ў горад. Тэатр меў прытулак у колішнім драўляным цырку. Вось ужо відаць яго зеленаватыя сцены і купал. Бачым: каля тэатра мурзаты хлапчук глянцуе чаравік Галубку, а славуты артыст, драматург і дырэктар тэатра засяроджана глядзіць, як спрытна бегаюць шчоткі ў руках айсора (чысцільшчыка абутку). І ці не інтуітыўна Уладзіслаў Іосіфавіч зірнуў налева, кінуў манету хлапчуку і пайшоў нам насустрач. У нязменнай кароткай цюленевай дасе, чорным капелюшы, ссунутым на вуха, і з вялікім партфелем. З Эдуардам яны абняліся, мне Галубок падаў вялікую, цёплую, мяккую далонь і павёў нас у тэатр. Фае было завешана цудоўнымі пейзажамі. Здавалася, уся Беларусь сышлася сюды: ціхія рэчкі і палескія балоты, нёманскія кручы і туманныя восеньскія світанні. Гэта ўсё былі работы Галубка.

На юбілей з Мінска прыйшоў спецыяльны цягнік: з'ехаліся госці з усіх тэатраў, ад творчых саюзаў, інстытуты і рабочыя прыслалі сваіх віншавальнікаў. Спектакль прайшоў з незвычайным поспехам: Кастусь Быліч у ролі сяржанта Дроба і Антон Згіроўскі -- Кадлуб-Дабравольскі (ці не ў свайго друга аўтар пазычыў прозвішча?) выклікалі няспынныя авацыі. Самуйлёнак быў шчаслівы і адчуў, што тут ён пачынаецца як драматург. Ён быў майстрам напружанага сюжэта, вострай фабулы. Успомнілася, як тады ў Полацку ў часе нашых доўгіх размоў пра літаратуру абураўся некаторымі творамі прозы, што пачынаюцца даўжэзнымі апісаннямі раніц, вечароў, бясконцых палявых дарог, нуднымі і прымітыўнымі размовамі (прачытаеш, а пераказаць можна за тры хвіліны), і параўноўваў з Дастаеўскім, Дзюма, Бальзакам, Мюсэ.

Я прыехаў у Мінск раней, Эдуард яшчэ затрымаўся ў Гомелі. Кватэрных тэлефонаў у нас тады не было. Часам, сустрэўшыся ў Доме пісьменніка, Эдуард прапаноўваў схадзіць у лазню Паплаўскага. Яна стаяла на самым беразе Свіслачы (яшчэ і цяпер месцамі вытыркаюцца цагліны ад колішняга падмурка) і якраз насупраць Купалавай хаты. Мы бралі двайны нумар. Эдуард лажыўся ў цёплую ванну ў акулярах і чытаў папулярны тады часопіс "30 дней". Здаралася, чытае, чытае і задрэмле, часопіс плавае па мыльнай вадзе.

Усё гэта так яскрава, да самых дробных дэталяў успамінаецца і сёння, праз 57 гадоў з тых незабыўных сустрэч. На магіле Самуйлёнка ранняй вясною расцвітаюць канваліі, часам даччына добрая рука паставіць у бляшанцы букецік незабудак. Насупраць магілы Самуйлёнка--помнік з вельмі падобнымі на жывых бюстамі выдатных артыстаў Міровіча і Крыловіча. Цяпер у царкве поўна людзей, і каля гэтых магіл не бывае пуста. Кланяюся ім і бачу, як жывых.

Я дзіўлюся і не магу зразумець, што Самуйлёнка звязвала са мною, юным, часцей за ўсё бездапаможным рыфмаплётам, бо каб надрукавацца, трэба было трапляць у аднастайны струмень прапагандысцкага гучнагалосся. Ён, відаць, адчуваў, што я яго вельмі паважаў, умеў зацікаўлена слухаць яго імправізацыі. У далёкім выгнанні недзе ў 1938 годзе дачуўся, што з некалькімі пісьменнікамі і Самуйлёнак узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. А што яго даўно няма на свеце, даведаўся толькі ў 1947 годзе, не надоўга адпушчаны на радзіму.

Хоць і зрэдку, але і цяпер гучаць у старых запісах па радыё то "Паляўнічае шчасце", то "Пагібель воўка". І ў маёй памяці зноў ажывае малады, высокі, інтэлігентны, з хваравітым румянцам, дасціпны і вясёлы Эдуард Самуйлёнак. Я заўсёды спыняюся каля яго магілы, стаўлю на месца схілены слоік з кветкамі, вырываю пасохлае бадылле. Значыць, не так даўно была яго слаўная дачка Марына. Наўрад ці яна памятае бацьку, а памяць і любоў перайшлі ў спадчыну. Талент яго жыве ў нямногіх кнігах, якія становяцца бібліяграфічнай рэдкасцю. А ён некалі казаў Барысу Мікулічу, што напіша не менш, як дваццаць тамоў. І напісаў бы: у яго была буйная фантазія, бясспрэчны талент, ён ніколі не быў "пачынаючым", "пачаткоўцам" -- з першай аповесці гучна заявіў пра сябе і адразу ўвайшоў у першы шэраг беларускіх празаікаў. Ён быў пісьменнікам выключнай працавітасці, толькі лёс адпусціў яму кароткі век -- на 32-м годзе жыцця, як сказаў Купала, "крылы апалі навекі твае".

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 18—21.**

ШТО МЫ СТРАЦІЛІ

# АБ ДРАМАТЫЧНЫМ ЛЁСЕ НЯСВІЖСКАГА ЗАМКА

Першыя і значныя страты панёс замак пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай. У гэты час канфіскавалі радзівілаўскую скарбніцу. Каштоўнейшыя творы мастацтва -- зброю, ювелірныя вырабы з золата, серабра і каштоўных камянёў -- адправілі ў Пецярбургскі Эрмітаж, менш каштоўныя -- у Смаленск. Шмат каштоўнасцяў проста разрабавалі расійскія салдаты і афіцэры.

Бібліятэку, якая налічвала да 1792 года 20 тысяч тамоў, таксама вывезлі ў Пецярбург разам з 17 тамамі літоўскіх прывілеяў. У выніку Нясвіжскі бібліятэчны збор склаў асноўную частку бібліятэкі імператарскай Акадэміі навук.

Пасля канфіскацыі маёмасці ў 1792 годзе Радзівілы зноў запоўнілі сваю скарбніцу каштоўнасцямі. Новыя рабункі адбыліся ў Нясвіжскім замку ў канцы кастрычніка 1812 года. Першым каштоўнасці радзівілаўскага скарбца забраў генерал Кнорынг -- каштоўнае адзенне мінулых стагоддзяў, старажытныя дываны, частку гадзіннікаў, антыкварных твораў, музычных інструментаў і іншыя рэчы.

Наступным рабаўніком быў генерал Тучкоў, які забраў брыльянты, сярэбраныя і залатыя вырабы, мэблю, люстэркі.

Даведаўшыся пра рабаванні Нясвіжскага замка генераламі ў асабістых мэтах, адмірал Чычагаў стварыў камісію, якая павінна была сачыць за ходам афіцыйнай рэквізіцыі радзівілаўскіх каштоўнасцяў. Яны афіцыйна забралі тое, што яшчэ засталося ў скарбніцы. Вывезлі сталовага серабра на сто асоб, калекцыі фарфору і фаянсу, творы заходнееўрапейскага жывапісу, кітайскія і турэцкія мастацкія тканіны, зброю і рыцарскія латы, старажытныя сярэбраныя вырабы (кубкі, кіі маршалкаў, аздобленыя золатам і брыльянтамі), залатыя і сярэбраныя манстранцыі, упрыгожаныя брыльянтамі, каштоўную конскую збрую і шмат іншых твораў мастацтва, а таксама незлічоную колькасць кніг.

Нумізматычны збор (13 256 манет, у тым ліку 456 залатых і 11 775 сярэбраных) адправілі па загаду Чычагава ў Харкаўскі універсітэт, рэчы культавага мастацтва -- у маскоўскі Успенскі сабор. А тое, што было менш значным, на погляд камісіі, прадалі на аўкцыёне.

Пазней Чычагаў перадаў частку нясвіжскіх каштоўнасцяў Эрмітажу ў Санкт-Пецярбургу. У гэты ж час забралі частку архіва. Рэштку рэчаў і твораў Чычагаў аддаў на разрабаванне вайскоўцам і мясцовым гандлярам. Уцалела толькі партрэтная галерэя роду Радзівілаў, але творы былі пашкоджаны.

Наступныя рабункі Нясвіжскага замка адбыліся ў пачатку 1919 года, калі на пэўнай частцы Беларусі ўсталявалася савецкая ўлада пасля адступлення немцаў. У гэты час надзвычайны атрад Салдатава вывез усе ювелірныя каштоўнасці, а таксама творы мастацтва, у тым ліку каштоўнейшыя габелены.

Згодна з Рыжскім мірным дагаворам 1921 года РСФСР і Польская Рэспубліка падзялілі паміж сабой не толькі этнічна беларускія землі (Масква не дапусціла ўрад БССР на перамовы), але і культурныя каштоўнасці. СССР яшчэ не быў створаны. На працягу 1928--1930-х гадоў ужо СССР перадаў Польшчы невялікую частку каштоўнасцяў Нясвіжскага замка, вывезеных у Расію ў 1792 і 1812 гадах. Спіс перададзенага мы маем. Але на гэтым страты каштоўнасцяў Нясвіжа не скончыліся. Шмат іх згублена ў 1939 годзе, пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Так бюро ЦК КПБ на працягу верасня 1939 і чэрвеня 1941 года чатыры разы абмяркоўвала на пасяджэннях, куды накіраваць каштоўнасці замка. У выніку 6 студзеня 1941 года бібліятэку і архіў вырашылі перадаць Акадэміі навук БССР; 264 карціны і партрэты, збор слуцкіх паясоў, частку мэблі, скульптуру і вазы -- Дзяржаўнай карціннай галерэі. Старажытныя гарматы XYI–XYIII стагоддзяў і частку рыцарскіх металічных даспехаў XYI стагоддзя, збор агнястрэльнай і халоднай зброі XYI--XYIII стагоддзяў -- Беларускаму дзяржаўнаму музею. А частку рыцарскіх даспехаў перадалі кінастудыі "Савецкая Беларусь", збор паляўнічай залы -- музею Беластоцкага дзяржаўнага запаведніка, які тады быў у складзе БССР. Касцюмы і мэблю перадалі тэатру оперы і балета, а частку -- Беларускаму драматычнаму тэатру ў Мінску. Астатнюю маёмасць прадалі праз дзяржаўны гандаль, як калісьці гэта зрабіў расійскі адмірал Чычагаў.

Марудзячы з перадачай нясвіжскіх каштоўнасцяў беларускім музеям і ўстановам, ЦК КПБ спрыяў вывазу без уліку беларускай спадчыны расійскімі музейнымі супрацоўнікамі. Так, у 1941 годзе экспедыцыя Дзяржаўнага гістарычнага музея (горад Масква) вывезла з паляўнічай залы Нясвіжскага замка "цудоўнай работы крэсла з косці рагоў аленя", а з маёнтка Завіша, каля Пінска, гэты ж музей вывез мэблю. З епіскапскага палаца ў Пінску яны забралі 2 разбярныя крэслы. Яны ж адправілі ў Цэнтральны антырэлігійны музей Масквы два вагоны старадаўніх кніг і рукапісаў (болей 30 тысяч), якія належалі Пінскай каталіцкай семінарыі. (Дарэчы, у сакавіку 1995 года сябры БСДГ звярнуліся з прапановай да Ельцына вярнуць хаця б гэтыя кнігі і рукапісы ў адказ на добраахвотную аднабаковую акцыю ўрада Беларусі аб перадачы Расіі 120 абразоў, затрыманых на заходняй мяжы Беларусі. Але Масква пакуль маўчыць).

Гітлераўскія генералы і вайскоўцы таксама рабавалі нясвіжскія каштоўнасці, спачатку кожны сам па сабе, якія ўжо знаходзіліся ў музеях. Але праз некалькі месяцаў гаўляйтар Кубэ спыніў прыватнае рабаванне і арганізаваў вываз каштоўнасцяў прафесійнымі супрацоўнікамі рэйха па складзеных немцамі спісах. Вывезены імі з Акадэміі навук БССР Радзівілаўскі архіў быў пасля вайны вернуты. Часткова вярнуліся каштоўнасці карціннай галерэі БССР і Белдзяржмузея. Нясвіжскія каштоўнасці, вывезеныя ў Расію, не вернуты пакуль зусім.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

## "ЗНІЧ" ПРАДСТАЎЛЯЕ

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч" прэзентаваў гледачам чарговую сустрэчу з цыкла "Тайна знічнага святла". Свае авантуры, містэрыі, паказкі прадстаўлялі Пятро Васючэнка і Сяргей Кавалёў -- аўтары, з якімі тэатр плённа супрацоўнічае, між іншым абодва -- кандыдаты навук. Кожны з гэтых літаратараў урабляе, так бы мовіць, сваё творчае поле, але час ад часу яны сустракаюцца на агульнай тэрыторыі, і гэтае супрацоўніцтва дае прыгожы плён. Адзін з такіх -- "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага". Некалькі гадоў таму, калі па радыё прагучала радыёверсія гэтай літаратурнай казкі, слухачы былі ўражаны незвычайна каларытнаю моваю, элегантнасцю фабулы і персанажамі. У казцы дзейнічалі яшчэ даволі стэрэатыпныя паныабібокі (якімі ж яшчэ могуць быць паны?), але быў там князь -- інтэлігентны, выхаваны, адукаваны, вучоны-дзівак. Найбольшая ягоная асалода -- сачыць за зоркамі ў небе праз падзорную трубу. Быў у казцы і гетман, хай сабе не вельмі адважны, але ўсё ж наш гетман, рэалія нашай гісторыі. Сцэнічны варыянт у тэатры "Зніч" таксама вельмі адметны. Акцёр Леанід Сідарэвіч з лялькамі выдатна вядзе монаспектакль.

Дзякуючы руплівасці спадара Кавалёва, гледачы "Зніча" знаёмяцца, ні больш ні менш, як з беларускай Францыяй праз творчасць мадам дэ Гаштольд, а дакладней сказаць -- сястры Гаштольд. Гэтая французская пісьменніца, творы якой сталіся класікай дзіцячай літаратуры, -- манахіня. Яе далёкія продкі -- выхадцы з Беларусі, з роду князёў Гаштольдаў. Спадар Кавалёў з французскай на беларускую мову пераклаў твор пісьменніцы "Малітвы жывёл", і на сцэне тэатра "Зніч" з'явіўся спектакль "Маленькі Анёлак".

*НЕЗВЫЧАЙНЫ БЕЛАРУС XX СТАГОДДЗЯ*

# "БАЦЬКА ГЕНАДЗЬ"

Смелыя артыкулы аб нацыянальнай самабытнасці мелодый і песень беларусаў выклікалі супрацьдзеянне ў паланізатарскім асяроддзі, якое адмаўляла існаванне адметнай культуры беларусаў.

У групе альтоў хору, якім кіраваў Цітовіч, спявала студэнтка медыцынскага факультэта Вольга. Яна мела прыгожы голас, мілую ўсмешку і незвычайна добрыя і жывыя вочы і характар, а родам была са Слонімшчыны. Сама адухоўленая, прыгожая, як песня, дзяўчына так захапіла сэрца хлопца, што яны заручыліся, але адклалі вяселле да ўладкавання з працай і жыллём.

Фальклярыст-музыказнаўца Цітовіч, які атрымаў такую грунтоўную падрыхтоўку (я не ведаю на Беларусі другога з такой эрудыцыяй. -- **Аўтар.**), аб'ездзіў да 1939 года ўсю Заходнюю Беларусь, наведваў найбольш аддаленыя запаветныя песенныя мясціны, неаднаразова натыкаючыся на сляды свайго настаўніка Шырмы.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 20, 21.**

Аднойчы ён успомніў, як у хаце адной выдатнай спявачкі на Пастаўшчыне ён на месцы іконы ўбачыў партрэт Шырмы. Здзіўленаму Цітовічу спявачка патлумачыла: "А ён вельмі ж падобны на святога Міколу, але яшчэ прыгажэйшы, бо наш, свой!"

Дарэчы, сам Цітовіч гэтага часу -- высокі, стройны, нават хударлявы -- быў любімцам моладзі з-за сваёй дзедаўскай жартаўлівай натуры, дасціпнасці, аптымізму, добрых, жывых узаемаадносін з людзьмі. Ён узброіўся універсітэцкім фанографам і запісваў мелодыі на васковыя валікі, што дазволіла больш інтэнсіўна фіксаваць музычны матэрыял.

Яго навуковыя даклады "Значэнне мелаграфіі для дыялекталагічнага даследавання", "Песні Віленшчыны", "Беларускія вытокі "Літоўскай рапсодыі" М.Карловіча", удзел у падрыхтоўцы грунтоўнай працы К.Машынскага "Народная культура славян" (Кракаў, 1939) былі сведчаннем, што ў беларусаў з'явіўся музыказнаўца-фальклярыст сусветнага ўзроўню. Акрамя беларускіх, ён запісваў і даследаваў польскія, украінскія, рускія (асабліва старабрадцаў), літоўскія, латышскія і балгарскія народныя песні. І тым больш у яго працах высвечвалася непаўторнасць роднай песні.

На гэтай глебе ў яго з'явілася выключная задума даследаваць лёс народнай песні на прыкладзе некалькіх пакаленняў жыхароў адной вёскі, для чаго, акрамя роднай, ён яшчэ выбраў вёску Дамброва Варшаўскага ваяводства, адкуль меў чуць не стогадовага ўзросту запісы знакамітага Аскара Кольберга. Параўнальнае даследаванне паказала, што запісаныя польскім фальклярыстам песні не толькі добра захаваліся, але няспынна развіваліся і ўдасканальваліся як мастацкія творы. Вынікам даследавання стаў пазней зборнік "Польскія народныя песні".

У 1937 годзе Генадзь і Вольга пажаніліся, але ў Вільні жонка не магла ўладкавацца. Яна атрымала месца правізара ў Вышкаве пад Варшавай. Сам Цітовіч да сканчэння кансерваторыі ў 1939 годзе жыў, як ён жартаваў, "па-цыгансku", вандраваў, настойліва і мэтанакіравана збіраў песенныя мелодыі. Каля трох тысяч сабралася іх да гэтага часу. У паветры вітала ваенная пагроза, таму юнак мудра захоўваў свае шматлікія нотныя сшыткі з запісамі або ў жонкі пад Варшавай, або ў бацькоў, якія ў гэты час жылі ў Лужках на Браслаўшчыне.

Пасля сканчэння кансерваторыі Цітовіч меў намер прайсці курс кампазіцыі ў прафесара Шалігоўскага, а ў навуковых даследаваннях па рэкамендацыі Машынскага накіраваўся ў Кракаўскае ваяводства.

Па шляху наведаў жонку ў Вышкаве, дзе і застала вайна. Захапіўшы фальклорныя запісы і самае неабходнае, рушылі да бацькоў Генадзя ў Лужкі.





1939 год Генадзь Цітовіч сустрэў з намерам аддаць свой талент і веды роднаму народу. Але здарылася нечаканае: гістарычны цэнтр беларусаў Вільня, куды его клікаў Т.Шалігоўскі, быў "падараваны" Жамойці.

Вучоны-беларус з грунтоўнымі ведамі і вялікім талентам стаў настаўнікам у Паставах, а потым быў накіраваны з прапагандысцкімі мэтамі на магутную радыёстанцыю ў Баранавічах. Яна будавалася з прапагандысцкімі намерамі яшчэ польскім урадам, але цяпер была выкарыстана саветамі.

Жыццё сапраўды таленавітага навукоўца, асвячонае шчырасцю да свайго народа (Божа, як гэтага не хапае многім, нават большасці з нас!), не падвержана палітычнай кан'юнктуры, вульгарна-сацыялагічнай ідэалагізацыі, палітычным гульням і спекуляцыі, якія панавалі і пануюць як найгоршая спадчына ідэалогіі камунізму. Цітовіч не паддаўся гэтай дэфармацыі, а наадварот, у вёсцы Вялікае Падлессе ля Баранавіч адбылося яго другое творчае нараджэнне.

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ:** студэнт Генадзь **ЦІТОВІЧ** (27.XI.34 г.); Генадзь **ЦІТОВІЧ** са сваім музычным настаўнікам прафесарам Тадэвушам **ШАЛІГОЎСКІМ**.





# НІТАЧКА, ЯКАЯ ПРЫВЯЛА НА ВЫСТАВУ...



Неяк я стала госцяй сям'і мінчанкі Кірычэнка. Гаспадыня сустрэла мяне ў прыгожай вышыванай блузцы... Ад абруса, упрыгожанага з дапамогай нітак мулінэ "смачнымі" клубніцамі, слінкі цякуць. А на канапе — падушка з "зусім сапраўднай" мухай-цакатухай... Усё гэта аўтарскія работы Святланы.

І дзе толькі ні "пасяляецца" ў гэтым доме прыгажуня вышыўка! Зайшоўшы на кухню, я ўбачыла яе ажурныя "сляды" на шторах, ручніках, сурвэтках і нават на самаробным абажуры.

-- А на продаж не вышываеце! -- спыталася я ў майстрыхі.

-- Прадаваць мне шкада, -- быў адказ, -- хаця ў мяне не раз хацелі купіць мае вырабы нават за долары. А вось падарункі раблю часта: прыемна, калі ў сяброў ёсць абрус з часцінкай тваёй душы, калі сяброўкі, іх дочкі носяць прыгожыя "карункавыя" каўнерыкі, якіх больш ні ў кога няма. Не кожны ведае, што ў машыннай вышыўкі -- вялікія магчымасці. Авалодаўшы ёю, можна выконваць самыя разнастайныя работы і нават карціны "маляваць"... Галоўная каштоўнасць гэтага хобі -- яно дапамагае ствараць утульнасць не толькі ў кватэры, але і ў душах усіх дамачадцаў: радуе, супакойвае, дапамагае дасягнуць гармоніі і ўзаемаразумення ў адносінах... Навучылася я вышываць дзякуючы двухгадовым курсам мастацкай машыннай вышыўкі. А якія выставы "выдаюць" выпускніцы курсаў -- сапраўдны цуд! Абавязкова вас запрашу!

І вось я ў Палацы культуры чыгуначнікаў, у танцавальнай зале, дзе вокны ва ўсю сцяну, а насупраць -- люстраная гладзь. Але сёння тут "танцуе вальс-бастон" вышыўка. Пад гукі ўяўнай музыкі кружацца нітачныя матылі і стракозы. Захапляюць сваёй "лёгкасцю" сурвэткі -- "сняжынкі". І нават верхняе адзенне, якое "ганарыцца", што яно такое прыгожае, удзельнічае ў гэтым святе вытанчанасці і прыгажосці, святе, створаным рукамі каля васьмідзесяці майстрых! Я пазнаёмілася з некаторымі з іх. Наталля Дзедушкіна, будаўнік па прафесіі, падзялілася тым, з якім вялікім задавальненнем яна і ўся яе група наведвала курсы машыннай вышыўкі:

-- Мы лічылі, што гэта жаночы клуб, і ішлі сюды, каб... адпачыць. Гэта такая аддушына ў наш цяжкі час! Тут кожная жанчына атрымлівае ў падарунак скрытыя ад яе раней таленты і здольнасці. Я пераканалася: шэрых людзей не бывае.

А выкладчык курсаў Людміла Карніенка, якая ўсё сваё жыццё прысвяціла медыцыне, упэўнена, што творчасць -- самае лепшае лякарства. Сваё захапленне Людміла Пятроўна апісвае так:

-- Зраблю новую работу, і я шчаслівая! Я як мыльная бурбалка, гатовая вось-вось лопнуць: ну няўжо я сама такую прыгажосць вышываю! А яшчэ з задавальненнем вучу і вучуся ў сваіх выдатных слухачак курса, якія яшчэ ўчора сцвярджалі:

-- Ніколі ў жыцці так не навучымся!

Я ж гавару ім:

-- Калі ёсць жаданне, навучыць можна нават... мядзведзя.

Алена КЛІМЕНКА.

Фота Віктара СТАВЕРА.

# СЛЁЗЫ СТАРОГА АЛЯКСАНДРА

(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).

На жаль, таямніцу мікратапоніма раскрыць не ўдаецца. Чаму Кобан, не ведае і Аляксандр Іванавіч.

Уздымаемся на велічны пагорак. Кучынскі расказвае пра каталіцкія могілкі. Яшчэ напрыканцы дваццатых тут хавалі дудзічанцаў каталіцкай веры. Побач, да Пцічы, ішоў шырокі луг, зараз пад пасевы спляжылі. Звалілі і сосны, што ў два рады акружалі Кобан. Прыгожыя стройныя сосны, заўважае старажыл. Няма тых дрэў. Няма лугавіны, а пасевы заўжды замакаюць. Няма на пагорку фактычна і могілак. Некалькі ўросшых у зямлю помнікаў. Надпісы на іх даволі цяжка паддаюцца расшыфроўцы.

А некалькі крокаў далей -- сляды пахавання Ельскіх. Аляксандра Карлавіча і яго жонкі.

Кучынскі расказвае:

-- Раней тут быў склеп. Але людзі расцягнулі сабе на ўсялякія патрэбы цэглу, з якой выкладзены былі сцены. Пліты, якія вы бачыце, абваліліся, з часам ураслі ў зямлю. А яшчэ адзін склеп трымаў, хаваў у нетрах сваіх астанкі прашчураў Ельскіх... Бачыце -- Аляксандр Іванавіч адварочваецца, паказвае ў бок Дудзічаў -- вунь на тым пагорку, дзе зараз помнік воінам-землякам, стаяла праваслаўная царква. Кажуць, што яшчэ раней яе памяшканне належала каталіцкаму касцёлу. А як пачалася вайна праваслаўя з каталіцкай верай, то ўсе труны і перанеслі сюды, на Кобан. Зрабілі для Ельскіх вялікі склеп.

Аляксандр Іванавіч паказвае прыблізнае яго месца, ускраек могілак.

І разам з Кучынскім мы пазіраем на жоўтую сцяну пагорка. Уражанне такое, быццам свежую магілу выкапалі побач.

-- Тут пясок на будоўлю бралі, -- тлумачыць стары, -- дык хадзіў да старшыні сельсавета, каб забаранілі разбой.

Пакідаем Кобан з сумным настроем. Фактычна -- пакідаем унікальнае месца ў справе вяртання памяці пра славуты род. Дык мо хто зробіць добрую справу -- засведчыць у камені могілкі, занатуе ў часе памяць... Пакуль жа Кобан -- сведка нашага бяспамяцтва. Застаецца толькі канкрэтызаваць яго адрас: у полі, паміж Дудзічамі і славутым Замосцем, узбоч Пцічы, на старажытнай пухавіцкай зямлі, ёсць узгорак, зняважліва намі забыты.

...Вяртаючыся ад Кобана, доўга ўгаворваем Аляксандра Іванавіча сесці ў машыну. Абяцаем падвезці як найбліжэй да кладак праз рэчку. Стары здаецца не адразу, тлумачыць, што хоча завітаць у Дудзічы, высветліць, што такое здарылася: некалькі дзён у пасёлак Пціч не нясуць пошту. Кучынскі ж выпісвае і "7 дней", і "Звязду"... Просім усё ж настойліва, і за якуюсьці хвіліну мы ў Дудзічах, ля патрэбнай хаты. Развітваемся, выйшаўшы з машыны. І робіцца няёмка: у старога пацяклі слёзы.

-- Уся надзея -- на вас, маладых... Вяртайце Беларусь, -- і ніякай рыторыкі, а слёзы бягуць па твары як самыя яскравыя сведкі горкага лёсу не толькі Аляксандра Іванавіча Кучынскага, а і ўсяе нашай Беларусі.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1946. Падпісана да друку 12. 6.1995 г.